# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 38 (248) 24 — 30 верасня 1996 г. КОШТ 2500 РУБЛЁЎ


# "ДЗЯННІЦА" СВЕЦІЦЬ КОЎНЕ









Духоўная культура ва ўсе эпохі з'яўлялася найважнейшай складовай часткай жыцця чалавецтва. Варта прызнаць, што язычніцкая рэлігія і міфалогія, звязаныя з імі помнікі і абрады з'яўляюцца аднымі з найстаражытнейшых праяў творчага духу чалавека. Бо старажытная духоўная культура — гэта супольнасць ведаў нашых продкаў пра акаляючы свет, прасторавы і сацыяльны космас, эстэтычныя ідэалы і этычныя нормы. Рэканструкцыя ўсяго гэтага — неабходная ўмова для разумення этнагенетычных працэсаў і каранёў менталітэту, псіхалагічных перадумоў фармавання нацыі.

За апошнім часам можна заўважыць, як рупліва пачалі збіраць звесткі, дакументы, вывучаць старажытную культуру ў балтыйскіх суседзяў, у Польшчы, Украіне, Расіі, пэўна — ад усведамлення віны за гібель гармоніі спракаветнага духоўнага космасу.

Аўтаматызацыя жыцця ўнесла моцную хвалю нейкай псеўдасусветнай, так званай масавай культуры, адарвала нас ад сваіх вытокаў, пазбавіла гістарычнай памяці. У выніку знішчаецца першаэлемент культуры — мова, фальсіфікуецца гісторыя, а эканоміка развальваецца на вачах.

Для выкарыстання "ўнутраных струн" характару любога народа трэба ведаць духоўную гісторыю, нацыянальныя традыцыі. Менавіта гэткія даследаванні і сувязь іх з надзейнымі патрэбамі тлумачаць поспехі ў эканамічным развіцці нашых суседзяў у Літве, дзе **13 — 15 верасня Ковенскім этнаграфічным цэнтрам праводзіўся Міжнародны фальклорны фестываль "КОЎНА-96"**, на які былі запрошаны лепшыя гурты Літвы, Чэхіі, Грэцыі, Нарвегіі, Беларусі, Германіі, Расіі, Швецыі і інш. Прадстаўляць Беларусь на гэтым фестывалі быў запрошаны гурт "Дзянніца", якім кіруе Ірына Міронава, бо менавіта гэты беларускі гурт пакінуў па сабе незабыўнае ўражанне ва ўдзельнікаў фестываляў мінулых гадоў у Прыбалтыцы і Калінінградзе.







*Фота Генадзя ЖЫНКОВА*

*(Заканчэнне на стар. 7)*

## НАТАТНІК ТЫДНЯ

### МІЖНАРОДНЫ МУЗЫЧНЫ ФЕСТЫВАЛЬ "ЗАЛАТЫ ШЛЯГЕР-96"

***з 1 па 6 лістапада ў Магілёве і Мінску***

*Арганізатары: Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Магілёўскі аблвыканкам, Магілёўскі гарвыканкам.*

У фестывалі ўдзельнічаюць папулярныя выканаўцы мінулых гадоў з Беларусі, краін СНД і далёкага замежжа, а таксама маладыя выканаўцы песень мінулых гадоў.

Цэнтр фестывалю — горад Магілёў. Фестываль праводзіць Магілёўская абласная філармонія. Канцэрты праходзяць таксама ў райцэнтрах Магілёўскай вобласці, а выязны гала-канцэрт — у Мінску. Удзельнікі фестывалю выступаюць перад жыхарамі раёнаў, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. У рамках фестывалю праходзіць конкурс маладых выканаўцаў песень мінулых гадоў.

*Дырэкцыя фестывалю знаходзіцца па адрасе: 212030 г.Магілёў, вул.Першамайская, д.10, Магілёўская абласная філармонія, Фестывальны аддзел.*

*Тэл. (0222) 31-00-67. Тэл./факс. (0222) 25-71-05.*

**Аргкамітэт**

### ПАЛАЖЭННЕ АБ КОНКУРСЕ МАЛАДЫХ ВЫКАНАЎЦАЎ "ЗАЛАТЫ ШЛЯГЕР-96"

***I***

У конкурсе ўдзельнічаюць маладыя эстрадныя выканаўцы ва ўзросце ад 18 да 30 гадоў.

Конкурс складаецца з адборачных праслухоўванняў і фінальнага тура ў г.Магілёве ў рамках фестывалю "Залаты шлягер-96".

Адборачныя праслухоўванні праводзяцца да 20 кастрычніка паводле аўдыёматэрыялаў, якія дасылаюцца ў аргкамітэт. Для ўдзельнікаў з Рэспублікі Беларусь праводзіцца дадатковае асабістае адборачнае праслухоўванне. Пры неабходнасці ў краінах-удзельніцах таксама можа быць праведзены адбор канкурсантаў. У фінальны тур допускаюцца не больш за 20 удзельнікаў. Усе фіналісты атрымоўваюць дыпломы фестывалю.

***II***

Для ўдзелу ў конкурсе выканаўцам неабходна падрыхтаваць дзве рознахарактарныя песні, якія былі папулярнымі ў мінулыя гады (пажадана да 1970 года) і якія павінны быць запісаны на аўдыёкампакткасеце. Неабходна прадаставіць наступныя звесткі:

1. Прозвішча, імя, імя па бацьку, дата нараджэння, прафесія і адрас выканаўцы;
2. Дакладныя назвы песень, імёны і прозвішчы аўтараў музыкі і тэкстаў, прозвішчы спевакоў, у чыім выкананні гэтыя песні сталі папулярныя і ў які м годзе;
3. Каляровыя і чорна-белыя фатаграфіі (па 2 шт. памерам 9х12 см).

*Матэрыялы на конкурс прымаюцца па адрасе: 212030, г.Магілёў, вул.Першамайская, д.10, Фестываль "Залаты шлягер-96" з адзнакай "на конкурс".*

Удзельнікам фіналу аргкамітэт дасылае адпаведныя запрашэнні. На фінал выканаўцам неабходна з'явіцца з фанаграмамі "мінус адзін" выконваемых конкурсных песень, запісанымі на аўдыёкампакткасеце альбо на мінідыску.

Матэрыялы, дасланыя на конкурс, не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

***III***

Паводле вынікаў конкурсу надаюцца Гран-пры і лаўрэацкія званні.

Журы мае права не прысуджаць якую-небудзь прэмію або прысуджаць іншыя заахвочвальныя прэміі.

***IV***

Удзельнікі фіналу самастойна аплочваюць праезд да Магілёва і назад. Пражыванне і харчаванне — за кошт арганізатараў. Пераможцы конкурсу ўдзельнічаюць у заключным гала-канцэрце і іншых пасляфестывальных акцыях бясплатна.

***Склад журы конкурсу***

Старшыня — народны артыст СССР Муслім Магамаеў

Члены журы: народны артыст СССР Юры Багацікаў
народны арыст СССР Ігар Лучанок
народны артыст Расіі Эдуард Хіль
народны артыст Расіі Уладзімір Трошын
народны артыст Беларусі Віктар Вуячыч
заслужаная артыстка Украіны Тамара Міянсарава
заслужаная артыстка Расіі Марыя Пахоменка
заслужаная артыстка Беларусі Нэлі Багуслаўская
заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі Аляксандр Колкер

**Аргкамітэт**

### Умовы адбору кандыдатаў для ўдзелу ў гульні "АДГАДАЙ МЕЛОДЫЮ", якая наладжваецца ў рамках фестывалю "ЗАЛАТЫ ШЛЯГЕР-96" у гарадах Мінску і Магілёве

Аргкамітэт фестывалю "Залаты шлягер-96" праводзіць адбор кандыдатаў для ўдзелу ў папулярнай гульні "Адгадай мелодыю", якая адбудзецца 1 лістапада ў горадзе Мінску і 2 лістапада ў горадзе Магілёве. Гульню будзе праводзіць папулярны вядучы Грамадскага Расійскага Тэлебачання (ОРТ) Валдзіс ПЕЛЬШ на падставе музычных тэм з рэпертуару ўдзельнікаў фестывалю (Леў Барашкаў, Капіталіна Лазарэнка, Іон Суручану, Вадзім Мулерман, Ірына Бржэўская, Шарль Азнавур, Муслім Магамаеў, Юры Багацікаў, Уладзімір Трошын, Эдуард Хіль, Віктар Вуячыч, Тамара Міянсарава, Марыя Пахоменка, Нэлі Багуслаўская, ансамблі "Гая", "Арэра", "Чэрвона Рута").

У праграме возьме ўдзел Дзяржаўны канцэртны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга.

Для ўдзелу ў конкурсе трэба даслаць да 14 кастрычніка лісты з адказамі на наступныя пытанні:

1. Што я ведаю пра гэтых выканаўцаў?
2. Якія песні ў іх выкананні былі папулярныя і ў якія гады?

Прымаюцца таксама выразкі з газет, фатаграфіі і іншыя цікавыя матэрыялы пра ўдзельнікаў фестывалю.

Дашліце звесткі пра сябе: прозвішча, імя, імя па бацьку, дата нараджэння, прафесія, адрас, а таксама ўсё тое, што Вы палічыце цікавым.

Аўтары лепшых лістоў возьмуць удзел у гульні "АДГАДАЙ МЕЛОДЫЮ": жыхары Магілёўскай вобласці ў г.Магілёве, астатнія ў г.Мінску. Праезд, пражыванне і харчаванне пераможцаў адбору — за кошт заснавальнікаў фестывалю.

Пераможцы гульні на Беларусі будуць запрошаныя для ўдзелу ў здымках перадачы на ГРТ (ОРТ).

*Лісты дасылайце на адрас: 212030, г.Магілёў, вул. Першамайская, 10, "Залаты шлягер-96" на конкурс "АДГАДАЙ МЕЛОДЫЮ".*

*Кантактныя тэлефоны ў г.Магілёве (0222) 31-00-67, у г.Мінску (017) 266-62-06.*

## СЛЫННЫЯ ДОЧКІ БЕЛАРУСІ

20 — 21 верасня ў Мінску праходзіў міжнародны кангрэс "Абарона правоў жанчыны ў постаталітарным грамадстве: Беларусь, Украіна, Польшча, Балтыя", які правялі Усебеларускі жаночы фонд Святой Еўфрасінні Полацкай, Беларускі Фонд Сораса, Прадстаўніцтва ААН на Беларусі. Падчас правядзення кангрэса адбылося ўрачыстае ўручэнне медаля Святой Еўфрасінні Полацкай Жанчынам Года.

Асноўнай тэмай кангрэса варта назваць спробу вызначыць ролю жанчыны ў сучасным грамадстве. Абмяркоўваліся таксама праблемы, звязаныя з абаронай і пашырэннем яе правоў, сацыяльна-эканамічнага становішча, вывучалася ідэя стварэння каардынацыйнага цэнтра, які дазволіў бы працаваць разам і больш плённа розным жаночым арганізацыям. Увесь час падкрэслівалася мэта — не стварыць новае аб'яднанне, якое б мела адзнакі манаполіі, але наладзіць новыя кантакты для супрацоўніцтва. Тут прысутнічала вялікая дэлегацыя ад Украіны, і кангрэс фактычна праходзіў пад знакам"Беларусь — Украіна — Жанчына". Яму папярэднічаў шэраг дабрачынных акцый. Так, арганізатары кангрэса разам з дабрачынным таварыствам "Сафія" пераслалі падарункі школе-інтэрнату для сляпых дзяцей у Жабінцы, школе для дзяцей-інвалідаў у Радашковічах,Полацкаму манастыру.

Наколькі актуалізуецца роля жанчыны ў сённяшнім палітычным і грамадскім жыцці? Гэтае пытанне было зададзена карэспандэнтам "Культуры" прадстаўніку "моцнай" палovы чалавецтва, удзельніку кангрэса, вядомаму палітолагу Уладзіміру Кучынскаму, які ў сваім адказе падкрэсліў, што ў мінулыя дзесяцігоддзі існавала недасканалая сістэма ўдзелу жанчыны ў палітычным жыцці. Тое, што ў нашай заканадаўчай уладзе ў 50 — 60-я гады існавала квота, згодна з якой жанчыны павінны былі складаць не менш за 35 працэнтаў ад усяго складу абраных, не сведчыць, што жанчыны мелі тады сапраўды вялікі ўплыў на палітычныя працэсы. У сённяшніх палітычных рэаліях ніякага механічнага падыходу тут не можа быць — усё вырашае канкурэнцыя. І сёння мы павінны рэгуляваць іх удзел у палітычных працэсах не шляхам вызначэння працэнтаў, а пры дапамозе рычагоў выхавання ў грамадстве павагі да жанчыны. Гэта сапраўдны еўрапейскі шлях. Варта ўлічыць тое, што жанчыны могуць быць больш патрэбнымі сям'і, і не варта імкнуцца да іх павальнага ўключэння ў грамадскія працэсы. Палітыкаў трэба выхоўваць, а не ствараць. Выступоўца выказаў некалькі практычных прапаноў. Гэта, перш за ўсё, неабходнасць надання жанчыне спецыяльнага юрыдычнага статуса. Жанчыны павінны мець сваю палітычную эліту і прымаць удзел у заканатворчай дзейнасці.

Пасля завяршэння кангрэса, у дзень нараджэння Найсвяцейшай Багародзіцы, у сталічным Доме літаратара адбылося ўрачыстае ўручэнне медаля Еўфрасінні Полацкай па выніках конкурсу, які доўжыўся два гады. Як сказала старшыня аргкамітэта Валянціна Коўтун, гэта, можа, самы сціплы медаль у свеце, які мае выяву абраза. На медалі — адна кветка, белая лілея, як сімвал нашай Беларусі, сімвал надзеі. Віншаванні Жанчынам Года даслалі старшыня Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня, дэпутат Вярхоўнага Савета Пётр Краўчанка. Віншавальныя тэлеграмы прыйшлі з Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны, Малдовы, Балгарыі. Драматург Аляксей Дудараў падкрэсліў, што ўручэнне медалёў —"гэта першы крок, каб узвысіць слынных дачок Беларусі. Таму што калі жанчына — мастак, актрыса, навуковец — аддае ўсю сваю душу справе, народу і гэта справа дае добры плён, такую жанчыну можна лічыць святой".

Лаўрэатамі медаля Святой Еўфрасінні Полацкай і Жанчынамі Года сталі народная артыстка Беларусі Стэфанія Станюта, рэктар Беларускага універсітэта культуры Ядзвіга Грыгаровіч, старшыня Партыі беларускіх жанчын "Надзея", галоўны афтальмолаг Беларусі Тамара Бірыч, паэтэса, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Украіны Ліна Кастэнка, міністр сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь Вольга Даргель, мастацкі кіраўнік ансамбля "Харошкі" Валянціна Гаявая.

Новая ўзнагарода — медаль Святой Еўфрасінні Полацкай стане яшчэ адным светлым знакам і арыенцірам у свеце на шляху ягонага ўдасканалення.

**Алесь ТУРОВІЧ**

## ІДУЦЬ ВЕТЭРАНЫ Ў "ПОЛЫМЯ"

Любяць у Касцюковічах аматарскі клуб "Полымя". Яго гаспадарамі з'яўляюцца 70 ветэранаў вайны і працы. Клуб дае магчымасць людзям адчуваць пульс жыцця, адчуваць сваю годнасць.

Загарэлася "Полымя" 35 гадоў таму ў раённым Доме культуры. Спачатку гэта быў клуб цікавых сустрэч. Яго першым старшынёй стаў дырэктар раённага краязнаўчага музея таго часу Уладзімір Ламінскі. Касцюкоўчанам адразу ж запомніліся вечары адпачынку, арганізаваныя "Полымем": "Байцы ўспамінаюць мінулыя дні", "Родная прырода", "Зямля кліча маладых". Хвалюючымі былі сустрэчы ў клубе са слаўтымі людзьмі. Першай была размова са знакамітым земляком, народным паэтам Беларусі Аркадзем Куляшовым. У свой час тут таксама пабывалі Васіль Быкаў, Анатоль Вярцінскі, Аляксей Кулакоўскі і іншыя.

Цяпер у "Полымя" больш шырокія паўнамоцтвы. Ён не толькі праводзіць цікавыя сустрэчы, але і арганізуе конкурсы "Грай, гармонік!". Тут ёсць хор ветэранаў, які славіцца ў раёне. Кіруе ім ветэран культуры Людміла Гіркіна.

35 гадоў таму заснавальнікі клуба далі яму дэвіз: "Гары і запальвай іншых!". І "Полымя" свеціць людзям і грэе ўсіх, хто прыходзіць вечарам на яго агеньчык.

**Іван ПЕХЦЕРАЎ**



"Беларускае дрэва" — так называецца выстава твораў народных майстроў, што адкрылася ў выставачнай зале Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі. Дрэва народных рамёстваў і талентаў расквітнела ў выставачнай зале: разьба па дрэве і габелены, інкрустацыя саломкай і мяккая цацка, ажурнае вязанне і чаканка на метале. Творы гэтыя яскрава дэманструюць захаванасць традыцый майстроў і іх развіццё на Беларусі. Наведнікі выставы могуць не толькі палюбавацца выставачнымі экспанатамі, але і набыць іх. Арганізавалі выставу Беларускі дом народных традыцый і Таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі.

**Яўген КАЗЮЛЯ, БелТА.**

*На здымку: гэтая незвычайная мэбля выканана майстрам з вёскі Паперня Мінскага раёна Іванам Бельскім.*

**Фота аўтара**

***Бюро прапаганды "Роднае слова" Саюза беларускіх пісьменнікаў арганізоўвае ў Доме літаратара тэматычныя выступленні, літаратурныя вечарыны, літаратурна-музычныя кампазіцыі, забаўляльна-абрадавыя выступленні, сустрэчы з прадстаўнікамі рэдакцый часопісаў, газет, выдавецтваў, беларускага радыё. За даведкамі звяртацца ў Мінску па тэлефоне 36-50-69.***

PLEINAIR

# ПАМІЖ ПААЗЕР'ЕМ І КОСМАСАМ



Мастацкія пленэры сёлета адбыліся (ці, прынамсі, рыхтаваліся) ва ўсіх абласцях Беларусі. Можна ўжо нават казаць пра канкурэнцыю: магілёўцы выдаткавалі безліч грошай на пленэр імя В.Бялыніцкага-Бірулі, каб пераўзысці ў пышнасці віцебскі Шагалаўскі пленэр. Тым не менш Віцебшчына па-ранейшаму захоўвае лідэрства ў экспансіі эстэтыкі "памяркоўнага постмадэрнізму" (кожны пленэр, прысвечаны нейкаму славутаму папярэдніку, вымагае ад удзельнікаў сінтэзу ўласнай стылістыкі з ягонымі тэмамі і палітрай). Улетку тут прайшлі пленэр імя І.Хруцкага, вядомага майстра нацюрморта сярэдзіны XIX стагоддзя, і Другі міжнародны пленэр "Малевіч. УНОВИС. Сучаснасць". А 15 — 25 верасня ў Глыбоцкім раёне адбываўся доўгачаканы пленэр, прысвечаны Язэпу Драздовічу.

Я.Драздовіч (1888 — 1954) займае вельмі адметнае месца ў беларускай культуры. Ён працаваў ледзь не ва ўсіх жанрах выяўленчага мастацтва, збіраў экспанаты для этнаграфічнага музея і запісваў фальклор, раскопваў старажытныя гарадзішчы і замалёўваў архітэктурныя помнікі, адкрыў школку на роднай мове і арганізаваў аматарскі тэатр, захапляўся касмалогіяй і пісаў працы па астраноміі, афармляў беларускамоўныя выданні (у тым ліку "Нашу ніву") і сам выдаў кнігу прозы. Вялікую літаратурную каштоўнасць уяўляюць захаваныя фрагменты дзённіка мастака, асабліва падарожныя нататкі з ягоных "магнетыстычных сноў" — астральных вандровак па іншых планетах. На думку віцебскага мастацтвазнаўцы Л.Вакар, Драздовіч на паўстагоддзя раней сусветнага мастацкага вопыту пачаў ажыццяўляць перфоменсы, праз якія даводзіў вяскоўцам астранамічныя веды і свае касмаганічныя гіпотэзы (напрыклад, з дапамогай лямпы і гарбуза тлумачыў паходжанне фазаў Месяца). На вядомым аўтапартрэце Драздовіч увасобіў сябе адразу ў трох асобах, што маюць агульнае цела, — мастака, навукоўца і пісьменніка, паказаў шматаблічнасць сваёй экзістэнцыі, якая расколваецца ад выбуху творчай энергіі.

Сябра мастака П.Сергіевіч называў яго беларускім Леанарда да Вінчы. Ужо згаданая Л.Вакар знайшла шмат цікавых паралеляў у лёсе і творчасці Драздовіча і Марка Шагала. На маю думку, ягоную жывапісную і літаратурную спадчыну было б варта параўнаць, перш за ўсё, з творамі М.Рэрыха і М.Чурлёніса, сусветна вядомых ягоных сучаснікаў, што распрацоўвалі блізкія тэмы.

Адкрыццё пленэру было прымеркаванае да гадавіны смерці мастака 15 верасня. Пачалося яно з урачыстага сходу ля магілы Я.Драздовіча недалёка ад вёскі Лепляне. Нягледзячы на благое надвор'е, аддаць даніну памяці мастаку прыйшло даволі шмат народу з навакольных вёсак, дзе яшчэ памятаюць жывым дзівака дзядзьку Язэпа. Памінальныя словы казалі мастацтвазнаўца Арсень Ліс, паэт з Глыбокага Алесь Жыгуноў. Сціплы помнічак, да якога былі ўскладзены кветкі, некалькі гадоў таму ўсталявалі на магіле Драздовіча мастакі — сябры суполкі "Пагоня" разам з мясцовымі актывістамі адраджэнскага руху (цяпер магілу даглядаюць вучні мясцовай школы). Паводле словаў Алеся Марачкіна, улады раней рабілі ўсё, каб выкрасліць імя Драздовіча з гісторыі беларускай культуры. У свой час ён ледзьве адшукаў месца пахавання мастака. На адкрыцці пленэру і сёлета не было прадстаўнікоў ні мясцовай улады, ні Міністэрства культуры.

Далей удзельнікі пленэру накіраваліся ў засценак Пунькі, дзе Драздовіч з'явіўся на свет. Сам дом не захаваўся, але засталася сведка ягонага маленства — высачэзная ліпа ў тры ахопы (яе, дарэчы, добра відаць нават ад магілы мастака). Прыемна было схавацца пад ёй ад дажджу, выпіць гарачай гарбаты з кавалачкам караваю, на якія славіцца Глыбоччына. Паводле словаў Міхася Райчонка, старшыні Культурна-асветніцкага цэнтра імя Язэпа Драздовіча, дрэва — гэта жывы храм мастацтва. Дрэва злучае неба з зямлёю — гэтаксама як і творчасць Драздовіча. Мастак зрабіў беларусаў касмічнай нацыяй: на ягоных касмічных творах можна пазнаць беларускія краявіды і твары.



Наступным прыпынкам экспедыцыі ўдзельнікаў пленэру стаўся Дом культуры мястэчка Падсвілле, дзе адкрылася выстава-конкурс дзіцячых мастацкіх школ Віцебшчыны "Шляхам Драздовіча". Шмат у якіх з гэтых твораў адчуваецца жаданне ўзнавіць тэматыку і стылістыку мастака. На думку М.Райчонка, найбольш дзейсны, жывы помнік Драздовічу — тое, што за ім ідзе сённяшняя моладзь.

Са сцэны Дома культуры ізноў гучалі ўрачыстыя прамовы, а таксама народная музыка ў выкананні ансамбля "Талака" з Наваполацка і калектыву Мінскай музычнай вучэльні. Кіраўнік Віцебскага аддзялення Беларускага Фонду Сораса, фінансавая дапамога якога і дазволіла правесці гэты пленэр, Валянціна Кірылава паведаміла, што выніковую выставу мяркуецца паказаць у вёсцы Гарадзец, у Віцебску, Полацку, Мінску і Беластоку. Потым гэтыя творы будуць перададзены музею мастацтва і этнаграфіі імя Я.Драздовіча ў вёсцы Германавічы.

Раніцай наступнага дня госці пленэру наведалі Гарадзецкі і Германавіцкі музеі. Апрача калекцыі твораў Драздовіча і сучасных мастакоў і біяграфічных матэрыялаў пра славутых землякоў (там жылі, напрыклад, генерал Булак-Булаховіч і Бен Егуда, які адрадзіў іўрыт у якасці жывой побытавай мовы, цяпер —дзяржаўнай мовы Ізраіля), у абодвух музеях маецца багата хатніх рэчаў пачатку стагоддзя і даўнейшых часоў. Ёсць нават каменныя сякеры ды іншыя інструменты V тысячагоддзя да нашай эры і каменны паганскі стод. У Германавічах знаходзіцца арыгінал помніка Язэпу Драздовічу (аўтар — У.Голубеў), копію якога можна ўбачыць у Траецкім прадмесці Мінска.

Тут амаль няма вітрын, да экспанатаў дазваляецца дакранацца рукамі — і цяжка ўстрымацца ад гэтай спакусы. Чалавек адчувае сябе амаль бессмяротным (прынамсі, старэйшым на некалькі стагоддзяў ці тысячагоддзяў), калі трымае ў руках старажытную рэч. Са свайго боку, напэўна, і рэчы не хочуць быць пахаванымі ў шкляных саркафагах. Дотык цёплай рукі ізноў вяртае іх у жыццё, як пацалунак прынца з вядомай казкі — спячую прыгажуню.

Вяла экскурсію Адэля Райчонак, былы дырэктар Германавіцкага музея (некалькі месяцаў таму яе звольнілі за сувязь з БНФ). Усе экспанаты, паводле яе словаў, былі набытыя для музея ягонымі супрацоўнікамі і сябрамі, мясцовыя ўлады далі грошы толькі на афармленне экспазіцыі. Яшчэ раз нагадаю, калекцыю ўдалося сабраць зайздросную. Вялікую каштоўнасць маюць, напрыклад, насценныя дываны, размалёўкай якіх захапіўся Драздовіч у 30-х гадах. Мяне асабліва крануў наступны сюжэт: на лясной палянцы два мядзведзі граюць уначы на скрыпцы і дудачцы, а паміж імі таньчаць уабдымку заяц і ліса.

Многае ў творчасці Драздовіча яшчэ не страціла актуальнасці, яшчэ апярэджвае сярэдні ўзровень сучаснай беларускай эстэтычнай думкі. Я маю на ўвазе, перадусім, сінтэз мастацтва, дакладных навук і псіхадэліі. І варта было б не толькі выдаць, нарэшце, альбом ягоных твораў і навукова-псіхадэлічныя трактаты, але і зняць па гатовых сцэнарах маляваныя ад рукі ці камп'ютэрныя анімацыйныя фільмы пра ягоныя падарожжы па іншых планетах і роднаму Паазер'ю. Феномен кіруемых сноў мог бы пры належным аналізе даць вялікі плён у псіхалогіі, псіхатэрапіі, тэорыі сродкаў масавай інфармацыі ды іншых навуках.

... Паўстагоддзя таму Драздовіч намаляваў у вёсцы Лужкі на сценах карчмы баляванне мядзведзяў ды іншых лясных жыхароў. З цягам часу карчма ператварылася ў сталоўку, роспіс зафарбавалі і забыліся, а потым зачынілі і яе, бо сталася ўжо непатрэбнай. Сёлета ж нечакана для ўсіх дажджы часткова змылі пазнейшыя фарбы, і цяпер мядзведзі ізноў, пакуль ячшэ нясмела, зазіраюць у вочы мінакоў.

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**



*На здымках: удзельнікі і госці пленэру ўшанавалі памяць Язэпа Драздовіча; у вольны час удзельнікі пленэру выконвалі ролі музыкаў: С.Цімохаў, А.Шатэрнік, У.Сулкоўскі і М.Купава.*

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

# РАЗМОВА З КАМЯНЯМІ

На працягу ліпеня — пачатку верасня на тэрыторыі дзіцячага садка № 205, што на праспекце Пушкіна, 6, адбываўся скульптурны пленэр "Размова з камянямі". У ім бралі ўдзел маладыя скульптары-выпускнікі і студэнты Беларускай акадэміі мастацтваў А.Вераб'ёў, В.Мінко, В.Борзды, В.Копач, В.Панок, І.Засімовіч, А.Усціновіч, П.Жураўлёў, У.Піпін, А.Асташоў і А.Шапо. Беларускі Фонд Сораса дапамог набыць неабходнае абсталяванне — шліфавальныя машыны, малаткі, інструменты для ручной апрацоўкі камня, а таксама сам камень. Гэта граніт, вапняк, ракушачнік і туф. На тэрыторыю садка былі прывезены таксама валуны з-пад Мінска.

* * *

*З дзённіка пленэру (31.8.96): "У чым магутнасць камня? Ён ляжыць сабе і ляжыць. А гэныя гойсаюць вакол і гойсаюць. Што яны хочуць? Ведае камень.*

*1000... гадоў таму падышоў чалавек да камня. І хацеў зрабіць з камня чалавека. Усміхнуўся камень. І сёння падышоў і хацеў зрабіць тое ж самае. Камень зноў усміхнуўся. Дык вось зрабі гэтую ўсмешку, якой 1000... гадоў!" (А.Усціновіч).*

* * *

Атмасфера на пленэры панавала надзвычай сяброўская і творчая. Удзельнікі менавіта размаўлялі з камянямі — без спрэчак кожны выбраў свой, ці, можа, наадварот, кожны з камянёў выбраў мастака для сябе. Адной з адметных рысаў пленэру было ашчаднае стаўленне да каменя — яго не гвалцілі, але проста спрабавалі падкрэсліць тое, што ўбачылі ўнутры (у адрозненне ад звычайнага спосабу працы над скульптурай, калі першапачатковымі з'яўляюцца тэма, эскізы, мадэль, а матэрыял шукаецца потым). Такім чынам, шмат у якіх творах апрацаваная паверхня арганічна спалучаецца з прыроднай фактурай. Мастак выступіў у суаўтарстве з Прыродай. Ва ўсіх творах адчуваецца моцны элемент імправізацыі і гульні. Праца на "тэрыторыі дзяцінства" і ў разліку, найперш, на дзіцячае ўспрыняцце абумовіла наўмысна ці вымушана інфантыльны характар многіх твораў. Гэта пераважна анімалістычная скульптура: выкапнёвая кісцяпёрая "Рыбка" Б.Лазарэвіча, два асьміногі У.Піпіна, "Беласнежны барс" В.Панка, "Арол" В.Мінко, каменны складны караблік на каменнай жа вадзе і сілуэт зомбі, які па грудзі высунуўся з зямлі, А.Вераб'ёва ды інш.

Багата і такіх твораў, якія разлічаны на больш сталае вока: абрублены зверху і знізу жаночы торс (П.Жураўлёў), гранітны матылёк і вапняковае Дрэва жыцця І.Засімовіча, "Анёл неаліту" А.Асташова, скульптурная камапзіцыя "Садок маленькага Буды"А.Усціновіча, мініяцюрны "Стоўнхэндж" У.Піпіна і г.д.

У выніку пленэру створана больш за трыццаць скульптурных аб'ектаў, арганізавана унікальнае эстэтычнае асяроддзе для выхавання дзяцей. Мяркуецца, што яны будуць штовесну сеяць траву і кветкі вакол маўклівых сведкаў (а можа, і ўдзельнікаў) іхніх гульняў, будуць вучыцца размаўляць з Прыродай праз камяні, кожны з якіх мае непаўторны твар і характар.

Падчас вернісажу 16 верасня наведнікаў сустракалі дзіўныя "пудзілы", распятыя на кратах агароджы садка, — абутак і вопратка, у якіх працавалі скульптары (з асабістымі подпісамі, каб не пераблытаць). Цяжка было зразумець, ці то мастакі папросту прыкалоліся і сышлі піць гарбату, ці то засталіся назаўжды ў сваіх творах.

* * *

*З дзённіка пленэру (27.7.96): "Яшчэ дзень-два — і скончу працу. Яна павінна будзе стаяць сярод няскошанай травы — мой чалавек (ці я сам?), адначасова любімы і закінуты ўсімі".*

**Андрэй ВЕРАБ'ЁЎ,**
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

САБОРНАЯ ПЛОШЧА

# “ВЕРЫМ — ЗНАЧЫЦЬ ІСНУЕМ!”

***16 кастрычніка 1996 года Беларусь будзе адзначаць вельмі значную для яе гісторыі дату: спаўняецца роўна чатырыста гадоў з дня ўрачыстага абвяшчэння ў горадзе Берасці знакамітай Берасцейскай уніі.***

БУДУЧЫ чарговаю спробаю ўзнавіць цэласнасць і адзінства хрысціянскай царквы, Берасцейская унія ўяўляла сабою падзею амаль што глабальнага маштабу, бо раскалатасць хрысціянства на паасобныя, нярэдка варагаваўшыя між сабой канфесіі, балюча адбівалася на лёсах не толькі еўрапейскіх краін. У той жа час надзвычай востра перажываўся і яе, так бы мовіць, рэгіянальны аспект у канкрэтнай гісторыі Вялікага княства Літоўскага — папярэдніка сучаснай Рэспублікі Беларусь.

Гэткай жа шырынёю вызначаецца і дыяпазон самых розных, нярэдка дыяметральна процілеглых ацэнак і падыходаў да гэтай падзеі. У тым, што з пазіцыі традыцыйна маскоўскага праваслаўя яна разглядалася і ацэньвалася зусім іншакш, чым з пазіцый прапольскага каталіцызму, нічога дзіўнага няма. Праблема палягае ў тым, каб знайсці ісціну паміж дзвюма крайнасцямі. Падыходы да яе развязання таксама могуць быць вельмі розныя, пачынаючы з канкрэтна гістарычнага з апорай на пошукі дадатковых эмпірычных фактаў і асаблівасцей і канчаючы агульнафіласофскім падыходам да характарыстыкі і ацэнкі гэтай шматзначнай гістарычнай падзеі, асабліва ў кантэксце яшчэ больш шырокай і складанай задачы — адраджэння беларускай нацыянальнай культуры. І калі ў канкрэтна гістарычным плане зроблена ўжо адносна шмат, то ў плане філасофскім, як здаецца, застаюцца яшчэ шматлікія белыя плямы.

У абставінах філасофска-метадалагічнага вакууму, які ўзнік пасля распаду марксісцка-ленінскага філасофскага светапогляду, перад намі ва ўсёй сваёй складанасці паўстае пытанне аб месцы і значэнні рэлігіі ў сістэме нацыянальнай культуры наогул. Пытанне, якое не толькі не ставілася і не вырашалася, але здымалася ў прынцыпе ваяўніча атэістычнай філасофіяй гістарычнага матэрыялізму. Тым самым заведама адмоўную ацэнку атрымлівала і праблематыка міжканфесійных адносін, у тым ліку і цікавячае нас тут канкрэтнае пытанне аб значэнні Берасцейскай уніі.

Духоўнае і матэрыяльнае ў культуры... Яны суадносяцца гэтак паміж сабой, як у асобным чалавеку душа і цела, розум і пачуццёвасць. Духоўная культура ўяўляе сабою як бы свядомасць народа, нацыі, якую Н.С.Трубяцкой, напрыклад, акрэсліваў як калектыўную асобу. І самы высокі, так бы мовіць, стратасферны ўзровень духоўнай культуры ўтварае рэлігія. Рэлігія ў нацыянальнай культуры, калі зноў звярнуцца да памянёнай метафары Трубяцкога, адпавядае таму, што ў канкрэтнай асобе складае сукупнасць яе жыццёва важных прынцыпаў і перакананняў, таму, што інакш мы называем верай. І пагэтаму можна зрабіць лагічна заканамерную выснову, што як пазбаўленая веры асоба не ёсць паўнавартасная асоба, так і народ, які не мае рэлігіі, таксама не ёсць паўнавартасны народ.

ДУХОЎНАЯ культура — гэта свядомасць і самасвядомасць народа, рэлігія ж — самая інтымная, непарушная, абсалютная яе аснова. Аднак і рэлігія, як і ўсё ўвогуле духоўнае, не існуе ў, так бы мовіць, дыстылявана чыстым выглядзе. Яна мае сваё знешняе, матэрыяльнае ўвасабленне, у ролі якога выступае яе канфесійная форма — царква. Хрыстос гаварыў, што царква — гэта цела яго рэлігіі. Будучы справай канкрэтных людзей, царква таксама аказваецца падуладнай гістарычным зігзагам і выпадковасцям. У абставінах нармальнага гістарычнага развіцця яна знаходзіцца звычайна ў цэнтры культурнага развіцця народа. Як справядліва сцвярджаў знакаміты англійскі гістарыёсаф А.Тойнбі, менавіта з яе пачынаецца працэс станаўлення культуры, і таму ён нават параўноўваў царкву са своеасаблівай кукалкай. Ролю такой кукалкі, напрыклад, у рускай культуры выдатна адыграла праваслаўная канфесія, пра што справядліва пісалі расійскія славянафілы і памянёны вышэй заснавальнік тэорыі еўразійства Н.С.Трубяцкой. Згодна з апошнім, праваслаўе, будучы арганічна спалучаным з запазычанымі ў Чынгісхана ідэяй цэнтралізаванай манархічнага тыпу дзяржаўнасці, а ў Візантыі “сімфоніяй” дзяржавы і царквы, паслужыла асноўным стымулам у станаўленні і развіцці нацыянальнай свядомасці і культуры Маскоўскага княства, а затым і пятроўскай Расійскай імперыі (у далейшым, як вядома, апошняя даволі хутка перарадзілася ў чыста імперыялістычны дзяржаўны арганізм, але гэта ўжо іншая праблема). Тое ж самае можна было б сказаць і пра ролю пратэстантызму ў Заходняй Еўропе, што таксама, згодна з Максам Вэбэрам, актыўна стымуляваў фарміраванне заходнееўрапейскіх нацыянальных дзяржаваў і культур.

Але на завілых скрыжаваннях шляхоў гісторыі нярэдка здараюцца выпадкі няпоўнага супадзення рэлігійных вяршынь культуры з яе непасрэдным матэрыяльна-чалавечым падмуркам, улучаючы сюды, напрыклад, і такі яе важны ўзровень, як дзяржаўнасць. Прыклады соцыякультурнага “дысанансу” можна бачыць і на Захадзе, і на Усходзе. На Усходзе такія прыклады дае нам гісторыя распаўсюджання ісламу, а на Захадзе — перыяд крывавых еўрапейскіх рэлігійных войнаў. Вялікае княства Літоўскае таксама не ўнікла горкага лёсу. Узнікшаму на самым эпіцэнтры, паводле дасціпнага выразу Ігната Канчэўскага, геатэктанічнага разлому паміж Захадам і Усходам, на лініі актыўнага процістаяння дзвюх прынцыпова розных па сутнасці сваёй культур, афармленых дзвюма хоць і роднаснымі па сваім паходжанні, але рэзка процістаяўшым адна другой рэлігійнымі канфесіямі, яму ўжо з самага пачатку наканаваны быў трагічны зыход.

ДАРЭЧЫ, тое, што так рэзка процістаялі праваслаўе і каталіцызм, што з’яўляюцца адгалінаваннямі адной і той жа хрысціянскай рэлігіі (на Маскве, напрыклад, з куды больш вострай нянавісцю і недаверам ставіліся да “латинства и лютоlровщины”, чым да чынгісханаўскага шаманізму або, напрыклад, мусульманства, з якімі наладжвалася досыць мірнае суіснаванне, нават супрацоўніцтва) — усё гэта яшчэ раз сведчыць пра глыбіню азначанага “геатэктанічнага разлому”. Можна толькі здзіўляцца і тлумачыць гэта высокім узроўнем духоўнасці нашых продкаў ліцвінаў, што на тэрыторыі Княства не ўспыхнула крывавая грамадзянская вайна на рэлігійнай глебе, а справа абыходзілася толькі вострымі тэалагічнымі дыскусіямі, калі не лічыць трагічнага інцыдэнта ў Віцебску з Язафатам Кунцэвічам. Але войнаў тут хапала, праўда, хоць і чыста палітычнага характару, але ўсё па той жа водараздзельнай лініі, што ў канчатковым выніку і прывяло да знікнення з еўрапейскай карты самай вялікай і магутнай па тым часе дзяржавы.

Трэба адразу адзначыць, што такі ненармальны па сутнасці стан і дзяржавы і духоўнага жыцця наогул востра адчувалі тадышнія лепшыя людзі Княства як з рэлігійнага, так і з палітычнага пункта погляду. І як бы вузка, можа быць, і прагматычна на сучасную мерку, ні аргументавалі сваю прапанову і дзейнасць па яе здзяйсненні Яўпацій Пацей і Кірыла Тарлецкі, іх гістарычная інтуіцыя і агульнае разуменне сітуацыі было, безумоўна, правільным. Унія паміж праваслаўнай і каталіцкай канфесіямі была сапраўды адзіным, безальтэрнатыўным выхадам з таго нялёгкага соцыякультурнага палітычнага становішча.

ВЯЛІКАЕ княства Літоўскае знаходзілася на самым скрыжаванні імперскіх інтарэсаў Маскоўскага княства з яго імкліва ўзрастаўшымі амбіцыямі на “воссоединение русских земель” і Кароны Польскай, якая таксама не супраць была далучыць да сваёй тэрыторыі тое, што пазней будзе названа “ўсходнімі крэсамі”. Маскоўская праваслаўная царква, узяўшы на ўзбраенне візантыйскі цэзарапапізм (знакамітая “сімфонія” царквы і дзяржавы служыла толькі лёгкім прыкрыццём: успомнім пастаянныя канфлікты Івана Жахлівага з Патрыярхам Маскоўскім), безагаворачна падтрымлівала палітычную ідэю “воссоединения”, распрацоўваючы канцэпцыю “Москва — третий Рим, а четвёртому не бывать”, падкінутую цару манахам Фалалеем. Тадышні каталіцызм, асабліва ў яго польскім увасабленні, таксама быў не супраць падыграць палітычным інтарэсам вавельскіх каралёў, хоць у цэлым і пачынаў ужо адчуваць недарэчнасць трагічнай схізмы 1054 года і патрэбу ў яе скасаванні, аб чым сведчаць хоць бы няўдалыя спробы Ліёнскай і Фларэнтыйскай уній. Ды і ў самім тагачасным Рыме было далёка яшчэ ад якой бы то ні было экуменістычнай ідэі, якая шырока распрацоўваецца там цяпер.

У адрозненне ад гэтых уній, якія прапаноўваліся Рымам, зыходзячы пераважна з адцягненай тэалагічнай невыгоднасці расколу ў чыста канфесійным плане, унія, што была падпісана ў Берасці 16 кастрычніка 1596 года, фактычна адпавядала патрэбам самых шырокіх народных колаў, пачынаючы з абстрактна тэалагічнага ўзроўню, дзе эфектна скрыжоўвалі свае палемічныя шпагі, напрыклад, славуты Пётра Скарга і Афанасій Філіповіч, і канчаючы звыклым штодзённым побытам, калі, напрыклад, муж і жонка належалі да розных цэркваў (як тое здарылася, напрыклад, з князем Аляксандрам). У прынцыпе яна адпавядала глыбіннай неабходнасці фарміравання беларускай нацыянальнай культуры (хоць тэрміналогіі такой тады яшчэ і не існавала), неабходнасці станаўлення нацыянальнай самасвядомасці народа. Рэлігійная вера, уяўляючы сабою як бы вяршыню піраміды духоўнай культуры, павінна была стаць менавіта тым цэнтрам, вакол якога толькі магло ўзнікнуць эгацэнтрычнае (у добрым сэнсе слова!) пачуццё такога народнага самаўсведамлення. Той своеасаблівы эксцэнтрызм, што існаваў дагэтуль на тэрыторыі Княства і згодна з якім такі цэнтр хацелі бачыць альбо ў Рыме альбо ў Маскве, мог прывесці толькі да раздваення свядомасці народа, аналагічна таму, што адбываецца са свядомасцю індывідуальнай асобы ў стане шызафрэнічнага захворвання (нешта падобнае, дарэчы, назіраецца і пры білінгвізме, аб чым пісаў скандынаўскі лінгвіст Крыстаферсан, — тым самым білінгвізме, пра які ў нас сёння столькі пішуць і гавораць адкрытыя і замаскіраваныя нядобразычліўцы беларускай культуры).

Што Берасцейская унія 1596 года якраз і адпавядала гэтым унутраным патрэбам фарміравання народнай самасвядомасці продкаў сучасных беларусаў, сведчаць шматлікія факты і дэталі. Каб упэўніцца ў гэтым, варта глянуць на тэкст артыкулаў, у якіх аўтары будучай уніі патрабавалі “парукі ад паноў рымлянаў перад тым, як прыступім да еднасці з рымскай царквою”. Патрабавалася, напрыклад, “каб Божая хвала і ўсе малітвы — ранішнія, вячэрнія і начныя — нам засталіся нязменнымі згодна са старадаўнім звычаем Усходняй царквы... І каб усё гэта ў нас было нашаю моваю... Каб тайна Святога Хросту ды яе форма была захавана цалкам, без аніякіх дадаткаў, — так, як мы яе ўжывалі дагэтуль... Каб сем’і святароў засталіся нязменнымі (пункт супраць каталіцкага цэлібату. — **М.К.**)... Каб мітрапаліцкіх, біскупскіх ды іншых высокіх духоўных санаў нашага абраду не давалі нікому іншаму, апрача людзей народа рускага або грэцкага і нашай рэлігіі... Каб нашых уладык не пасылалі да Рыма па сакру (г.зн. за граматай на асвячэнне. — **М.К.**)... Каб нам было дазволена асноўваць школы, семінарыі грэцкай і славянскіх моваў... а таксама адчыняць друкарні...”. Нават святая святых каталіцызму — славутае filioque не прымалася, а было пакінута традыцыйна праваслаўнае палажэнне, што “Святы Дух не мае двух пачаткаў і падвойнага паходжання, а паходзіць з аднаго пачатку, як з крыніцы — ад Айца праз Сына”.

Ужо адно гэтых кароткіх спасылак дастаткова, каб пераканацца, што Берасцейская унія не толькі ніяк не пасягала на якой бы там ні было самастойнасць і незалежнасць ад Рыма, але і задуманая была як сродак найбольш паўнавартаснага развіцця менавіта самастойнай народнай, беларускай, як мы зараз бы сказалі, духоўнай культуры і самасвядомасці. Нягледзячы на шматлікія цяжкасці і перашкоды пераважна знешняга, палітычнага характару, маладая уніяцкая царква імкліва развівалася па ўсёй тэрыторыі Вялікага княства, пашыраючы сферы свайго ўплыву сярод самых розных станаў насельніцтва. Дастаткова сказаць, што нават у 1839 годзе, годзе афіцыйнай ліквідацыі расійскімі уладамі грэка-каталіцкай царквы, на Беларусі пасля амаль што сямідзесяцігадовай барацьбы за існаванне яна налічвала звыш дзвюх тысячаў святароў і каля трох мільёнаў вернікаў. Лічба досыць яшчэ ўнушальная. Тая пакутніцка-гераічная барацьба працягвалася, як вядома, і надалей...

СТАЛА ўжо ледзьве не прымаўкай фраза, што гісторыя паўтараецца. Яна сапраўды паўтараецца ў грандыёзна заканамерных рытмах яе эпох. Але паўтараецца гісторыя часам і ў выпадковых, нядобрых зігзагах свайго канкрэтнага цячэння. Вось і цяпер маладая Рэспубліка Беларусь зноў як бы завісае ў да крайнасці палярызаванай, наэлектрызаванай узаемным супрацьстаяннем, прасторы паміж Усходам і Захадам. Зноў перад намі паўстае тая ж самая па сутнасці задача адраджэння беларускай нацыянальнай культуры, і культуры перш-наперш духоўнай, якую ўзначальвае рэлігія. Зноў нам прыходзіцца змагацца за абуджэнне ў народзе нацыянальнай самасвядомасці, заснаванай на глыбокай веры ў Бога, у дабро і ўласную чалавечую годнасць. Веры, якая была амаль што цалкам знішчана за стагоддзі расійскага прыгнёту і за 70 гадоў бязбожнага панавання бальшавікоў.

І ў гэтых абставінах чатырохсотыя ўгодкі з дня заключэння Берасцейскай уніі павінны ўспрымацца намі зараз не толькі як вялікая дата з далёкага мінулага, але і як своеасаблівы арыенцір на будучыню. Заціснутая паміж двума велізарнымі, вельмі адметнымі соцыякультурнымі рэгіёнамі незалежная Рэспубліка Беларусь не мае іншага шляху, як толькі і надалей развіваць сваю самастойнасць і незалежнасць як у дзяржаўным, так і ў агульнакультурным сэнсе. У гэтым аспекце адраджэнне і далейшае развіццё беларускай уніяцкай царквы выступае перад намі як адна з істотнейшых частак праблемы адраджэння і развіцця культуры і дзяржаўнасці беларускага народа ўвогуле. Як адна з канфесій хрысціянскай рэлігіі, што мае, як вядома, сусветнае значэнне, яна адкрывае сабою праз веру ў Бога шлях да агульначалавечых духоўных каштоўнасцей і ідэалаў, а ў якасці менавіта нацыянальнай царквы цесна звязвае гэтыя каштоўнасці і ідэалы з духоўным жыццём беларускага народа, з яго самасвядомасцю і самаіснаваннем.

Калі трохі перафразіраваць афарызм Дэкарта, можна было б з поўным правам сказаць: “Credemus — ergo sumus (верым — значыць існуем)!” У такім святле і трэба адзначыць нам гэтую вялікую дату — чатырохсотыя ўгодкі Берасцейскай уніі.

**Мікола КРУКОЎСКІ,**
**доктар філасофскіх навук,**
**прафесар.**

*На здымках: Полацкая Сафія. Інтэр’ер XVIII ст. пасля рэстаўрацыі; узоры драўлянай беларускай скульптуры, уласцівай для касцёлаў і уніяцкіх бажніц XVII — XVIII стст. Друкуецца ўпершыню.*

КАНТРАМАРКА

# — ДЗЕ Я?..
# — У ШАТЛАНДЫІ

***Так адказвалі самі сабе акцёры Мінскага гарадскога тэатра з назвай, аднайменнай пытанню, не верачы, што ўвачавідкі бачаць старажытныя шатландскія замкі, касцёлы, паркі...***

***У жніўні гэтага года ў Эдынбургу, як дарэчы і летась, і пазалетась, і пазапаза... летась, праходзіў грандыёзны фестываль мастацтваў. З усяго свету сюды з'ехаліся прыхільнікі Мельпамены: вялікія і малыя акцёрскія калектывы; вулічныя балаганчыкі, цыркі шапіто ды сур'ёзныя драматычныя тэатры.***

***Сярод удзельнікаў ужо другі раз на фестывалі былі беларускія тэатры "Вольная сцэна" і "Дзе-Я?". Але ніхто з трупы тэатра "Дзе-Я?" не мог нават дапусціць, што ўдзел у фестывалі ўвянчаецца сапраўднымі гастролямі і грандыёзным поспехам (а атрымаць пяць зорак — вышэйшую адзнаку — за спектакль на замежнай (не англійскай) мове дый яшчэ паводле невядомага ў свеце аўтара — гэта амаль неверагоднасць).***

— На Эдынбургскі фестываль нас запрасіў Рычард Дэмарка,— расказвае галоўны мастак тэатра, акцёр, выканаўца галоўнай ролі ў спектаклі "Круці..." Ігар Падлівальчаў. — Гэта даволі вядомы тэатральны імпрэсарыо. А праславіўся ён тым, што адкрыў свету кракаўскі тэатр Тадэуша Кантара.

І вось у мінулым годзе на гэтым фестывалі мы атрымалі чатыры зоркі, што дало магчымасць патрапіць у рэйтынг, які існуе ў тамтэйшай крытыкі. На месяц Эдынбург пераўтвараецца ў вялізную сцэнічную пляцоўку. На плошчах, вуліцах, у розных установах, нават у школах праходзяць спектаклі, прыкладна паўтары тысячы на дзень. Уявіце, колькі прыязджае калектываў! І наш спектакль паводле Францішка Аляхновіча "Чорт і баба" быў не толькі заўважаны, але і рэцэнзаваны, і станоўча адзначаны. Таму нас запрасілі на гэты раз.

Цяпер мы павезлі спектакль "Круці..." таксама Францішка Аляхновіча. І ён атрымаў вышэйшую адзнаку і, як пісалі ў прэсе, "ледзь не ўзрывае мазгі"...

***"The Scotsman"***
***16 жніўня 1996 года***

*Пытанні асабістай і нацыянальнай тоеснасці ляжаць у аснове гэтай цэльнай працы, заснаванай на двух творах беларускага драматурга Ф.Аляхновіча, які загінуў ад рук КДБ ў 1943 годзе. А таксама ў цэнтры пастаноўкі — усюдыіснасць смерці і бессэнсоўная барацьба чалавецтва з ёю.*

*Дзеянне адбываецца на Беларусі, дзе грамадства было скалечана таталітарызмам і рабствам, якія насаджаліся ўладамі, але ясныя акцэнты ў спектаклі, пастаўленым Міколам Труханам, як напрыклад, паўтарэнне шатландскай песні "Берагі і лугі" з яе прывідным і закалыхваючым уздзеяннем на гледачоў і акцёраў, паказвае, што пастаноўка мае больш шырокія геаграфічныя межы.*

*Шлях да разумення п'есы не ў веданні мовы, але ва універсальнасці сюррэалізму ў перамяшчэнні кашмарных сцэн, падобных снам, і лёгкім пераходзе ў рэальнасць, уключаючы спусташэнне, выкарыстанне крапельніц у якасці мінашукальнікаў, хірургаў у зялёным, якія пагружаюць інструменты ў цела Смерці.*

*Спектакль аглушае, палохае, смяшыць, азадачвае, пакідаючы яркія і моцныя ўражанні. Гэты вечар запомніцца надоўга!*

***Джон дэ Фалька***



— Нашыя выступленні пачаліся не ў Эдынбургу, а ў Лондане. Нас там прымала беларуская дыяспара. Яна валодае даволі змяшчальным домам у цэнтры горада. І ў садочку мы сыгралі наш спектакль, які вельмі ўзрушыў нашых землякоў. А пасля быў наладжаны прыём ва уніяцкай місіі, дзе нам далі бласлаўленне на добрае выступленне ў сталіцы Шатландыі.

А пасля мы трапілі ў Дандзі. Гэта невялічкі гарадок пад Эдынбургам. Там ёсць гэтак званы Рэп Тэатр. І ён па сваёй архітэктуры, па сваім тэхнічным абсталяванні лічыцца самым лепшым тэатрам у Шатландыі. Грымёркі ўтульныя, усе ў люстэрках, падлога ў дыванах, душ, кандыцыянер, блок, дзе стаіць посуд, мікрахвалёвая печка, карацей — усё зроблена, каб можна было займацца творчасцю і ні аб чым не думаць. Такую пляцоўку Эдынбург не можа прадаставіць. Зразумела, што іграць на гэтай сцэне вельмі і вельмі прэстыжна.

Усё ж раншыя спектаклі мы гралі ў Эдынбургу, а вячэрнія — у Дандзі. А ўвогуле на пляцоўцы Рэп Тэатра мы далі пяць спектакляў "Круці...", якія карысталіся поспехам. Кожны дзень перад уваходам у тэатр вывешвалі даўжэзныя скруткі плакатаў, дзе былі вялікімі літарамі напісаныя рэцэнзіі на нашы спектаклі.

Мэр горада наладзіў прыём у гонар нашага тэатра, адбыўся ён у музеі, дзе была ткацкая фабрыка, а затым у самой мэрыі.

***"Evening Telegraph"***
***12 жніўня 1996 года***

*Мэр г. Дандзі, лорд Марвін Рольф сёння паклаў пачатак удзелу г.Дандзі ў 50-м Эдынбургскім міжнародным фестывалі, а затым запэўніў,што горад у хуткім часе зможа праводзіць свой уласны фестываль мастацтваў.*

*Мэр вітаў беларускі тэатр, які паказвае сваю пастаноўку "Круці..." у Дандзі Рэп Тэатры.*

*Лорд Рольф сказаў, што яму вельмі прыемна, што Дандзі зноў адыгрывае значную ролю ў фестывалі...*

*З артыкула*
*"Прадказваецца фестываль мастацтваў у Дандзі"*

— За той тыдзень, што мы былі на фестывалі, мы атрымалі шэсць рэцэнзій на спектакль. У беларускай прэсе за сезон пра наш тэатр столькі не пішуць. Спектакль вельмі ўразіў, на прэм'еры быў аншлаг. Безумоўна, мы не нейкія разрэкламаваныя попзоркі, але цікавасць да нашага тэатра была трывалая: Хаця вынікі фестывалю яшчэ будуць абмяркоўвацца, але адзін-адзіны факт ужо сведчыць сам за сябе — калі арганізатары фестывалю ладзілі ўрачысты ленч, запрошаных было не так шмат, толькі трое: ангельскі скульптар, амерыканскі мастак і тэатр "Дзе-Я?". Па водгуках, наш тэатр трапіў у дваццатку лепшых тэатраў свету.

Нас запрасілі на будучы Эдынбургскі фестываль і, што даволі прыемна,— на Лонданскі тэатральны фестываль, які адбудзецца ў лютым наступнага года. А гэта больш кансерватыўны і больш сціслы па памерах фестываль, у якім удзельнічаюць тэатры, што мелі пэўны поспех у свеце.



***"Fife Herald"***
***16 жніўня 1996 года***

*10 акцёраў трупы запаўняюць сцэну віхурай рухаў і фарбаў. На змену фарсу прыходзіць высокая драма. Калі акцёры размаўляюць на сваёй выдатнай мове, шкадуеш, што не валодаеш ёю. Аднак ключавыя моманты перакладзены на ангельскую, і вымаўленне лепшае, чым у іншага носьбіта мовы.*

*Акцёры выкарыстоўваюць прастору сцэны Дандзі Рэп Тэатра з такой упэўненасцю і вытанчанасцю, што быццам асвойвалі яе ўжо некалькі тыдняў...*

*Спектакль прыгожы, урачысты, прывабны. Ён прыцягвае, уражвае, захапляе, бярэ ў палон.*

***Одры Эванс***

*З артыкула*
*"Фестываль прайшоў у Дандзі"*

— 18 жніўня мы пераехалі далей на поўнач, у Абердзін. Гэта партовы горад, трэці ці чацвёрты па памерах у Шатландыі. Праўда, ён не вельмі тэатральны. Там жывуць нафтавікі і студэнты. Студэнты вучацца, а нафтавікі з мора нафту пампуюць. Так што публікі было не так багата, як у Дандзі, але ўсё ж прэса падагравала цікавасць.

***"Press and Journal"***
***21 жніўня 1996 года***
***(Абердзін)***

*...На шчасце, тэатр іграе сваю выключную пастаноўку п'есы Ф. Аляхновіча "Чорт і баба" яшчэ раз заўтра ўвечары ў Цэнтры мастацтваў. Так што ў гледачоў ёсць яшчэ магчымасць пазнаёміцца з мастацтвам славянскай тэатральнай трупы.*

*Жывым доказам універсальнасці мовы драмы з'яўляецца стыль тэатра, які падасца знаёмым кожнаму,хто ўжо бачыў сучасны "фізічны тэатр".*

*Аднак і тут знойдзецца некалькі сюрпрызаў. Галоўным чынам — свабода акцёраў у мастацтве імправізацыі. Аўтарскі тэкст незвычайна плаўна пераходзіць ад аднаго выканаўцы да другога, ад іх — да гледачоў.*

*З артыкула*
*"Ажыўшыя карціны Брэйгеля"*

— Пасля Абердзіна ў нас быў творчы пленэр у старажытным замку Крэйтс. Кароль Шатландыі падарыў гэты замак мясцоваму лорду яшчэ тады, калі нават не было пісьменнасці. І замест даравальнай граматы кароль даў свае пальчаткі і паляўнічы рог. Цяпер гэтыя рэліквіі, праўда, запаяныя ў браніраванае шкло, знаходзяцца ў каміннай зале.

Пад сценамі замка, проста на траве, мы далі прадстаўленне. Было багата турыстаў, смяяліся, пляскалі ў ладкі... І раптам да нас падыходзіць чалавек, пытаецца, хто мы, адкуль. Адказваем, тэатр з Беларусі, выступалі на Эдынбургскім фестывалі. А ён нам кажа, ці не маглі б вы прыехаць да нас у вёсачку, тутака недалёка, па дарозе назад у Эдынбург, і сыграць нашым дзеткам ды нашым старым ваш спектакль. Што ж, кажам, калі ласка, паехалі.

Але што гэта была за вёска? Гэтак званае супольніцтва "Лагер на гары". Існуе цэлая сістэма такіх супольніцтваў. Там жывуць дзеці і старыя, якія маюць спецыфічныя праблемы са здароўем. Прасцей кажучы, псіхічна хворыя. Было вельмі моцнае ўражанне. На Беларусі мы таксама займаемся дабрачыннасцю, ездзім да дзяцей з Чарнобыльскай зоны. І параўнаць немагчыма. Як шатландскія дзеці дагледжаныя, у якіх яны ўмовах жывуць, можа ў нас, у саўмінаўскіх санаторыях няма гэткага. Дзяцей увогуле толькі дваццаць пяць чалавек. На іх прыходзіцца тры лекары, сочаць, хто прастудзіўся, у каго праблемы з ныркамі, алергія. Усё апаратыўна, дакладна.

А старыя хворыя жывуць асобна, у кожнага свой катэджык, каб дзеці ім не перашкаджалі. Вакол цудоўны парк, усё патанае ў ружах. А даглядаюць хворых маладыя людзі, у якіх таксама былі псіхічныя праблемы,— здаровыя людзі, але па нейкіх прычынах яны хацелі развітацца са сваім жыццём. Яны там праходзяць псіхалагічную рэабілітацыю. Дапамагаюць хворым у іхнім рамястве: ткацтва, розныя драўляныя вырабы. Напрыклад, хлопцы робяць садовыя лавы...

І вось у нас узнікла такая ідэя: разам з гарадской адміністрацыяй Абердзіна, якая шмат дапамагае беларускім дзецям з Гомельскай і Магілёўскай абласцей, прымае іх на сваёй зямлі на аздараўленне, дасылае гуманітарную дапамогу,— правесці дабрачынную акцыю.

Восем шатландскіх акцёраў і наш тэатр робяць сумесны праект. Шатландцы будуць іграць "Імжу" — нашу рэдакцыю п'есы польскага драматурга Януша Кофты "Халопская вайна". Мы маем такі спектакль, які не тое што пра лёс беларускага народа, а ўвогуле пра лёс чалавецтва на прыкладзе беларускага народа. Вера Рыч, вядомая перакладчыца беларускай літаратуры на ангельскую мову, зрабіла цудоўны пераклад.

А мы паставім казку. Якую, праўда, яшчэ не вызначылі. Магчыма, паводле творчасці Роберта Бёрнса, ці возьмем якую-небудзь нашу казку, ці ўвогуле гэта будзе аўтарская праца. Такім чынам, з гэтымі спектаклямі мы спачатку хочам аб'ехаць нашых беларускіх дзетак, а пасля наведаем супольніцтвы "Лагер на гары". Ужо шукаюцца фундатары праекта. Хутчэй за ўсё гэта будуць Еўрапейскі Савет і нафтапрамыславікі.

***"The Stage and Television Today"***
***22 жніўня 1996 года***

*У п'есе "Круці..." уздымаюцца пытанні нацыянальнага ўсведамлення і адраджэння нацыянальнай мовы, што робіць пастаноўку незвычайнай.*

*Забудзьце аб сцэнары і кароткім выкладанні сюжэта ў праграмцы да спектакля. Гэта пастаноўка Міколы Трухана ўздымаецца над лінгвістычнымі бар'ерамі. Выключная праца трупы з 10 чалавек. Выкананне імі бліскучых сцэн,харэаграфічных нумароў, песень запаўняе душы, ускалыхвае іх спакой...*

— На заканчэнне нашага візіту ў Шатландыю мы былі запрошаны яшчэ на адзін ленч, які даваў Рычард Дэмарка. Падчас яго выступіў містэр Тэры Сандэл, дырэктар Урадавай арганізацыі "Visiting arts", якая займаецца фінансаваннем мастацкіх праектаў, правядзеннем разнастайных фестываляў і ўвогуле культурнымі сувязямі Вялікабрытаніі з усім астатнім светам. Ён сказаў, што задаволены і ўсхваляваны дзейнасцю тэатра "Дзе-Я?", а менавіта тым, што геаграфія нашых выступленняў у Вялікабрытаніі пашыраецца; усе брытанцы вельмі ўзрушаны тым, што тэатр даў дабрачынны спектакль для хворых дзяцей, што нечакана ўзнікла сумесная ініцыятыва. Нас запэўнілі — Шатландыя ізноў чакае сустрэчы з тэатрам "Дзе-Я?" і спадзяецца, што яна адбудзецца ў хуткім часе.

**Для газеты "Культура"**
**занатаваў Серж МІНСКЕВІЧ**

*На здымках: мэр горада Дандзі з трупай тэатра "Дзе-Я?"; тэатр "Дзе-Я?" у Эдынбургу.*

# АБШАРЫ

ПОЛЬСКІ тэатр з'яўляецца абсалютна унікальнай з'явай. Ён далёкі быў ад мастацкай сілы Усходу, якая падаўляла Захад масавай папулярызацыяй. Быў ён таксама зусім чужы заходнім праяўленням пасўоднага авангарда, які задавальняў артыстычную эліту. Адным словам: у адным выпадку быў вельмі масавы, у другім — надзвычай элітарны.

Польскі тэатр — дастойнае стварэнне ПНР, якая гарантавала тэатральнаму мастацтву ведамаснасць і вынікаючыя з гэтага мецэнацтва сацыяльныя прывілеі. Дастаткова сказаць, што маштабы дзяржаўнай апекі над тэатрам доўгі час былі сапраўды імпануючымі. Амаль сто калектываў мелі свае штатныя рабочыя месцы і пастаянна атрымлівалі датацыі, нягледзячы на так званыя артыстычныя вынікі. Дзяржава хацела быць і была мецэнатам.

Адначасова побач з афіцыйным тэатрам у Польшчы на задворках існаваў альтэрнатыўны рух. Нават у самы цяжкі перыяд — 50-я гады — дзейнічаў так званы пераапрануты студэнцкі тэатр. Гэта быў камуфляж, які маладая інтэлігенцыя выкарыстоўвала для самавыражэння. Інтэлектуальная частка грамадства на пераломе 60-70-х гадоў адмаўлялася прызнаваць традыцыйныя мадэлі. Кабарэ і эстрада, музыка і выяўленчае мастацтва ў сваіх найбольш радыкальных праяўленнях амаль на працягу паўстагоддзя змагаліся за свае правы. Так з'явілася польская сцэнаграфічная школа, так нарадзіўся польскі эстрадна-кабарэтны рух, так, нарэшце, атрымалі права на існаванне ўсе формы тэатральнага авангарда. Больш таго, творчае ўзаемадзеянне паміж найбольш радыкальнымі творцамі і тэатральнымі ўстановамі нарастала. Амаль ледзь заўважальна рэвалюцыянеры "offu" пранікалі ў звычайныя стацыянарныя калектывы і станавіліся іх дырэктарамі і мастацкімі кіраўнікамі. Таму няма нічога дзіўнага, што польскі тэатр стаў у 70-я гады для дзяржавы, якая ўсё менш валодала палітычнай і эканамічнай сітуацыяй, істотным экспартным таварам. Імёны Гратоўскага і Кантара, Тамашэўскага і Свінарскага, Шайна і Джэвецкага, Аксера, а таксама Багуслава Шэфера пазначалі еўрапейскія і сусветныя шляхі польскай тэатральнай экспансіі.

У польскім тэатры другой паловы XX стагоддзя з'явілася яшчэ адна важная заканамернасць. Нарастала моц тэатральнай правінцыі. Варшава з кожным годам страчвала значэнне цэнтра, а такія гарады, як Кракаў, Лодзь, Вроцлаў, Познань, Гданьск, станавіліся не толькі здаровымі канкурэнтамі сталіцы, але пачалі пераўзыходзіць яе. Да сённяшняга дня Стары тэатр у Кракаве з'яўляецца недасягальным узорам для сталічных калектываў.

Нарэшце, асобныя этапы тэатральных рэвалюцый у Польшчы былі звязаны з грамадска-палітычнымі падзеямі. Кабарэ сярэдзіны 50-х гадоў, авангарднае вобразнае выкананне эпохі нефармальнага (з удзелам гледачоў) тэатра, "адкрыты" тэатр 70-х гадоў, які выкарыстоўваў мультымедыйную музыку і інструментальную тэхніку Гратоўскага, ці той жа "Тэатр смерці" Т.Кантара — кожная з гэтых з'яў была ў Польшчы прадвесцем настрояў. Гэта значыць прадказвала грамадскі рух, напрыклад "Падзенне" тэатра СТУ і "На адкрытым сонцы" Каламбура, два спектаклі 1969 года, якія сапраўды адлюстравалі снежаньскія падзеі 1970 года на Узбярэжжы. Спектакль "Залпам" "Тэатра Восьмага дня" быў прыкладам апісання важнай у гісторыі Польшчы падзеі.

Восем польскіх калектываў, якія выдзяляюцца сярод некалькіх дзесяткаў, гастралюючых за мяжой, з'яўляюцца яскравымі прыкладамі гэтай з'явы. Польскі тэатр сёння, як ніколі, надзвычай разнастайны. Для гледача гэта сапраўдная асалода — мецъ справы са з'явамі абсалютна адрознымі. Захапленне выклікае іх індывідуальнасць і непаўторнасць і адначасова ўсведамленне таго, што ўсе гэтыя калектывы, якія носяць назву "тэатр", маюць выключна польскія карані. У гэтым іх узаемападобнасць, а таксама іх сіла, якая садзейнічае іх выяўленню на чарговых міжнародных паказах. Гэта добры адказ на розныя сумненні, якія, як правіла, выкліканы ўнутранымі зменамі ў існуючых шмат гадоў калектывах.

"Тэатр Восьмага дня" адносіцца менавіта да гэтага шэрагу легенд. Дзейнічаючы ўжо ў сярэдзіне 60-х гадоў і будучы зачараваным аднолькава як новай драматургіяй (першая польская пастаноўка "Марата Садэ" Петэра Вайса), так і новай акторскай выразнасцю ў Гратоўскага ("Варшавянка" — паводле канцэпцыі Збігнева Асінькага, знакамітага знаўцы "Тэатра Лабараторы"), тэатр на пачатку 70-х гадоў мяняе сваё амплуа. Ашаламляльны, пастаўлены на аснове вершаў Станіслава Бараньчака, спектакль "Залпам..." (першапачатковая назва "Донары") мае на мэце наступнае:

"Выкрыць фальш, які мы ўсе накапілі ў сабе, сарваць маскі бачнасці, паказаць свой твар. І сэнс таго, што схавана за ўзнёслымі словамі, прыгожымі шаблонамі, прывычнымі жэстамі, якія мы выконваем па прывычцы, ці ад ляноты альбо страху".

Побач з "Залпам..." (1971), які мае форму "аптымістычнага" рэпартажу са станцыі пераліву крыві, важным крокам наперад з'яўляецца пастаноўка 1976 года з барочнай назвай "Мы павінны задаволіцца тым, што называецца раем на зямлі...?" "Няма ніякіх ідэалаў, ніякіх ідэй. Усё гэта трэба стварыць (...), каб не лгаць, каб не знаходзіцца пад сталым цяжарам уласнай пагарды", — сцвярджаюць стваральнікі спектакля разам з Лехам Рачакам.

Найбольш паказальным спектаклем быў "Уцэнка для ўсіх" (1977). Гэта была спроба паказаць правілы гульні, якія панавалі ў грамадскім жыцці Польшчы 70-х гадоў, а таксама наступствы такога стану ў прыватным жыцці звычайных людзей. Дэманструемы ў спектаклі правілы, абавязковыя ў польскім грамадскім жыцці, — гэта гвалт, карупцыя і падман. Грашовае "прычасце" — акт ласкі ўладаў і кабарэ з дзяўчынамі, у якіх адзіным убор з'яўляюцца таблічкі са словамі, якія падвергнуліся "ўцэнцы".



Тэатр "3/4 з Зусно" — Беластоцкае ваяводства.

Побач з калектыўным выкананнем спектакль "Ах, як годна мы жылі" (1979) з'явіўся добрай падрыхтоўкай да вулічных спектакляў 80-х гадоў: "Рапарт з блакаднага горада", "Цудаў і мяса", ці "Мяса".

Ваенны стан абвясціў па-за законам "Тэатр Восьмага дня" (1984), затым была эміграцыя, праца ў Італіі, вяртанне ў 1992 годзе і спектаклі ўжо пры новай польскай рэчаіснасці: "Нічыйная зямля", "Рэквіем", "Шабаш", "Танцуй, пакуль можаш". І хоць няма ўжо ў тэатры



Тэатр "Акадэмія руху" — Варшава.

канвеамым на працягу пяці гадоў (пачынаючы з 1978 года да калектыву пастаянных акцёраў далучыўся Януш М.Клачоўскі) спектаклем "Успаміны з дому памёрлых", калектыўнай рэалізацыі твора, пастаўленага на аснове кнігі Густава Хэрлінга-Грудзіньскага "Іншы свет". Са сцэны праменявала "атмасфера перанасычэння, прымусу, чужасці і абрыўкаў размоў, абломкаў прадметаў, людскіх абломкаў, якія сіляцца сабрацца разам, каб захаваць сваю чалавечнасць". Вядомы ў краіне (часам выходзячы на вуліцы, як, напрыклад, у 1984 годзе) і за мяжой (Лондан, Гент, але перш за ўсё Эдынбург) калектыў усё часцей звяртаецца да твораў вялікай літаратуры, якія выражаюць адвечную праблему чалавечага існавання. Такім чынам, спектакль "З неба, праз свет, да самога пекла" (1992)



Тэатр "Восьмага дня" — Познань.

# ПРАВІНЦЫЯ

Леха Рачака, яго касцяк складае чацвёрка, якая пачынала "Тэатр Восьмага дня", іграла ў першым спектаклі: Эва Вуйцяк, Адам Бароўскі, Тадэвуш Янішэўскі, Марцін Кэншыцкі. Яны надалей паўтараюць: "Наш тэатр цесна звязаны з падзеямі па-за сцэнай, з асабістым жыццём кожнага з нас..."

Люблінскі тэатр "Правісорыум", генеалогія якога крыху падобна да "Тэатра Восьмага дня", з'яўляецца тэатрам наступнага пакалення. Ён з'явіўся ў 1970 годзе, але заявіў пра сябе па-сапраўднаму толькі ў 1978 спектаклем "Наша нядзеля", які шакіраваў наступным заяўленнем: "Усе правы перасталі дзейнічаць, свет напоўнены хаосам. Аднак людзі нічога не прадпрымаюць, каб стрымаць гэты распад, які зацягвае іх таксама".

"Наша нядзеля" — гэта другая пастаноўка (пасля "На сярэдзіне шляху") калектыву, які да сённяшняга дня ўзначальвае Януш Апрыньскі. Гэты вельмі камерны калектыў, у склад якога ўваходзяць з першых дзён існавання Яцэк Бжэзіньскі і Славэк Скоп, заўсёды быў тэатрам, які змагаецца. Яго акцёры, шмат разоў праследуемыя і асуджаныя, Кшыштаф Харыяш і Анджэй Мацяш шмат сюжэтаў да вострых бескампрамісных спектакляў напісалі ў турме. У "Правісорыуме" жыццё кіпела, нягледзячы на адсутнасць цэнзурнага дазволу. Так было з "Нашай нядзеляй", так было з выдыскутуе з ідэямі "Кнігаў Ёва" і "Песні песняў", "Фауста" Томаса Мана, а апошняя рэалізацыя "Спачуванне" (1993) — з Гамерам, Шэкспірам, Норвідам і Сайманам Уэйлам.

Засяроджаныя на сабе акторы "Правісорыума" ў форме сімвалічнага паведамлення набліжаюцца да гледача непасрэдна, дбаючы аб тым, каб іх інфармацыя была заўсёды праўдзівай. Тэатр, сапраўды "ўбогі", унутры валодае надзвычай багатым сведчаннем.

Зусім інакш дзейнічае заснаваная ў 1973 годзе Войцехам Крукоўскім Варшаўская "Акадэмія руху". Яе спектаклі, а дакладней амаль тэатральныя дзеянні адразу мелі поспех. Для гледача, змучанага і рэчаіснасцю, якая станавілася ўсё менш цікавай, і паўтарэннямі паказу пераломнага перыяду, дзеянні "Акадэміі" былі чымсьці абсалютна новым. Такое ўражанне зрабіў на гледачоў "Аўтобус" (1975), абсурдная натацыя з жыцця, якое імчыцца наослеп з невядома дзе. Велізарнае ўнутранае напружанне "пасажыраў" гэтага аўтобуса ўзмацнялі акустычныя эфекты, якія складаліся таксама з цяжкіх штодзённых водгаласаў рэчаіснасці і ідэалогіі.

"Акадэмія руху", створаная групай, якая на чале з Крукоўскім узначальвае Цэнтр сучаснага мастацтва ва Уяздоўскім замку, спрабавала стварыць свой уласны імідж, які б аб'ядноўваў у сабе рысы вулічнага тэатра, майстэрства пастаноўкі і пластычнага выканання. А ўсё дзеля таго, каб так, як у адным са спектакляў новай рэчаіснасці — "Духоўныя ўцехі", дайсці да вулічнага, выпадковага гледача. "Духоўныя ўцехі" — каварна надуманы філасофскі пікнік, падчас якога акцёры прапанавалі публіцы "ежу, кіруемую на адлегласці". З дапамогай шнуркоў яны рухалі разложаныя на палатне садавіну і мясную ежу. Але кульмінацыйным пунктам была духоўная ежа: фрагменты з артыкулаў вядомых філасафаў і сацыёлагаў, якія надаваліся да анімацыйнай рэчаіснасці як кулак да носа. Спектаклі "Сметнік" і "Пэрпэруна", якія заснаваны на адчуванні такога роду абсурду, увайшлі ў наш заблытаны перыяд канца стагоддзя.

Тэатр "К.Т.О.", заснаваны студэнтамі Ягелонскага універсітэта ў



Тэатр "К.Т.О." — Кракаў.

АБШАРЫ

# ЯК АЛЬТЭРНАТЫВА

1978 годзе, знаходзіцца ў Кракаве. Ужо падчас першай прэм'еры “Сада раскошы” ярка праявілася рэжысёрска-інсцэнізацыйная індывідуальнасць Адольфа Вельтшака, з самага пачатку цесна звязанага з тэатрам СТУ, падобна, як яго галоўны натхняльнік, спачатку мастацкі кіраўнік тэатра — Ежы Зонь. Вельтшак з'яўляецца, дарэчы, аўтарам вельмі папулярнага ў краіне і за мяжой спектакля “Сінема” (1993), які прысвечаны не толькі гісторыі кіно, але і функцыянаванню ў грамадскай свядомасці сімвалаў і метафараў кінамастацтва. “Гэта ашаламляльная галерэя асобаў, незвычайных жыццёвых сітуацый, як у фільмах Феліні, прадстаўлена пры дапамозе экспрэсіі акцёрскага цела з нязвыклым тэмпам і адчуваннем рытму”, — пісала прэса ў Коста-Рыка. У Кракаве, аднак, слушна заўважана: “Гэта рэч, якая, як і ўсё сённяшняе мастацтва, гучыць двухсэнсоўна. Здзекуючыся з сучаснай карцінкавай культуры, яна адначасова на ёй жыруе”.

Услед за Ежы Зонем, які з'яўляецца пераемнікам Аліны Абідняк у Еленей Гужы, стваральніцы Фестываля вулічных тэатраў, тэатр “К.Т.О.” заўсёды выходзіў з тэатральнага будынка. Зонь — нястомны вандроўнік, які супрацоўнічае са шматлікімі знакамітымі калектывамі вулічных тэатраў ва ўсім свеце, прывіў свайму калектыву інстынкт свабоднага захавання на вулічным карнавале. Яго апошні спектакль “Вавілонская вежа” (1993) выклікаў рэакцыю захаплення. “Гэтае пачынанне з размахам, які рэдка сустракаецца, было насычана фарбамі, піратэхнікай, вялікімі лялькамі, фантастычнымі постацямі, машынамі і сродкамі перамяшчэння, рухомымі дэкарацыямі”, — заўважыў сведка ўсіх еленегурскіх мерапрыемстваў. Не менш былі ўражаны нямецкія гаспадары аднаго з вулічных святаў: “Спектакль быў сімвалам чалавечых летуценняў пра “агульны дом”, сімвалам яднання і гармоніі, перарваных хваляй гвалту, нянавісці і неталерантнасці”.



Тэатр Войтка Калсуты — Чэнстахова.

Кракаўскі тэатральны калектыў са сваімі пастаноўкамі выйшаў на вуліцы і плошчы ўсяго свету.

Недзе пасярэдзіне паміж вопытам “Акадэміі руху” і тэатра “К.Т.О.” кружыць Аўтарскі тэатр Войтка Калсуты. Гэта чэнстахоўскі мастак, які супрацоўнічае з групай маладых энтузіястаў, ён найбольш яскрава выразіў сябе ў спектаклі “Рэспубліка лялек”. Як пісалі пра яго спектаклі, датаваныя 1991 годам: “У іх цалкам сціраецца грань паміж вымыслам і рэальнасцю”.

Да нетыповых тэатраў неабходна аднесці групу, якая функцыянуе ўжо некалькі гадоў на вуліцы Шведскай у Варшаве пад кіраўніцтвам Войцеха Марыяньскага. Ён сам, перамяшчаючы свой калектыў у адноўлены пасля пажару Тэатр “Размаітосьці”, прапанаваў новую адаптацыю прозы Бруна Шульца. “Шаленства лоўлі матылькоў”, такую назву даў Марыяньскі свайму даследаванню гісторыі Іосіфа — выніку супрацоўніцтва з тэлевізійнымі сцэнарыстамі, мужам і жонкай, Кацярынай і Марцінам Ярнушкевічамі. Сам Ярнушкевіч стаў вядомым у мінулым годзе сваёй інтэрпрэтацыяй “Да Дамашка” Аўгуста Стрындберга.



Тэатр “Правісорыум” — Люблін.

У рэпертуары Тэатра “Размаітосьці”, які мае намер працягваць праграмную лінію Шведскай, “Пэпшоў” Таборы ў інсцэнізацыі Генрыка Бараноўскага і навейшая работа вядомага са сцэнічнай “Птушачкі” Уартана ў Старым тэатры Адама Срокі. Срока звярнуўся да прозы Сюзаны Сонтаг, а прапанова называецца “Падарожны камплект да смерці”.

І нарэшце два найважнейшыя тэатры. Яны падобны адзін да аднаго, але таксама і адрозныя. Паходзяць з адной тэрыторыі — Беластоцкага ваяводства, з якога аднолькава праменіць як зачараванне культурнай і рэлігійнай спадчынай польска-беларускага пагранічча, так і пачуццё сувязі з грамадскасцю, дзесьці загубленай паміж усходам і захадам, на ўскраіне еўрапейскай цывілізацыі. Абодва калектывы заваявалі сабе дзіўны, абсалютна пазаведамасны статус, які нагадвае сваім існаваннем “Cricot 2”, прыватную, зусім вольную і па-сяброўску аб'яднаную групу. Ёсць яшчэ і трэцяе падабенства — гэта практыка тэатра лялькі і маскі.

Першы калектыў называецца “Таварыства Вершалін”, тэатр прапісаны ў Супраслі пад Беластокам, створаны ў 1991 годзе Пятром Тамашуком і Тадэвушам Слабадзянкам. Чатырохгадовая гісторыя гэтага калектыва — гэта сам поспех, хаця шляхі заснавальнікаў тэатра разышліся, і Тамашук узначальвае таварыства самастойна. Узнагароды “Fringe First” на фестывалях у Эдынбургу, шматлікія ўзнагароды на радзіме, Дыплом Міністра замежных спраў. Побач з першапачатковымі пастаноўкамі “Мэрліна” Слабадзянкі і “Веліканка” Філіпа Дорына хітом з'яўляецца версія Тамашука “Пракляцця” Выспянскага, якую мноства крытыкаў прызналі як найлепшы спектакль польскага тэатра ў мінулым сезоне. Гэта апавяданне пра ксяндза, які парушыў боскую запаведзь і ўступіў у сувязь з жанчынай, прадстаўлена ў спектаклі зусім інакш. Калектыў “Таварыства Вершалін” хоча размаўляць з намі пры дапамозе рэакцыі звычайных людзей, перажыванні якіх рашаюць, якім чынам жыццё можа верыфікаваць запаветы “святых кніг”.

Тэатр “3/4 — Зусно” мае яшчэ больш экзатычную назву. Малая вёска ў Сувальскім ваяводстве дала прытулак групе зусім прыватнага тэатра. Яго заснавальнік — гэта знаменная постаць польскага лялечнага тэатра, шматгадовы дэкан факультэта лялечнага мастацтва ў Беластоку пры Варшаўскай вышэйшай тэатральнай школе — Кшыштаф Рау. Спектакль “Джанні, Ян, Жан, Джон”, які яшчэ ні аднаго разу не пакідаў фестывалі без узнагарод, — гэта чацвёрты, сумесна пастаўлены калектывам спектакль, які захапляе гледача тым, што партытура ў ім напісана для дзесяці рук. Ідэя маралітэту, перадаваемая пры дапамозе незвычайнай тэхнікі анімацыі рук, рук актораў. Паўтарае чужыя думкі, дубліруе жэсты і паводзіны. Трагічнай становіцца толькі ў момант абсалютна самотнай смерці.

Пяць маладых актораў пасля лялечных курсаў у Майстра — гэта ансамбль, які пастаянна развівае свае магчымасці і талент. Шматгадовая праца Рау дала выдатныя вынікі, як, зрэшты, у кожным мастацкім пачынанні, якое вынікае з патрэб і з таленту.

Тэатральная правінцыя Польшчы — надзея шматабяцальная.

**Кшыштаф МІКЛЯШЭЎСКІ**



Тэатр “Размаітосьці” — Варшава.



Тэатр “Вершалін” — Беласток.

# “ДЗЯННІЦА” СВЕЦІЦЬ КОЎНЕ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

Этнаграфічны цэнтр у Коўне існуе шосты год і сёлета ладзіць ужо чацвёрты міжнародны фестываль дзякуючы намаганням дырэктара гэтага цэнтра спн. Асты Змітрытс і мэра горада сп.Каткавічуса, віцэ-мэра спн. Вінцэ-Вайдэвутс Мэргявігене. Усе ўдзельнікі свята былі паселены ў цэнтральны гатэль горада “Балтыя”, дзе мелі вельмі добрае харчаванне й выдатную абслугу. У першы дзень адбылася вечарына знаёмства ўсіх гуртоў у гарадскім Доме мастацтва, дзе арганізатары свята, на чале з спн. Змітрытс, мэрам і віцэ-мэрам горада вельмі густоўна ўпрыгожылі залу, на століках ля чароўных букетаў кветак стаялі віны й напоі, у нацыянальным посудзе ўзвышаліся розныя прысмакі. Гаспадары і госці абмяняліся падарункамі, у знак знаёмства праспявалі па адной песні. Было вельмі прыемна, калі самая знакамітая літоўская спявачка фальклорнага гурта “Блэздзінга” Вераніка Павілёнене раптам зацягнула беларускую песню. І хоць манера яе выканання засталася літоўскай і беларускай “Дзянніцы” цяжка было падтрымаць яе спевы, але галоўным была добразычлівасць і павага паміж людзьмі.

На наступны дзень адбыўся канцэрт у зале філармоніі. У другой палове дня “Дзянніцу” і чэшскі танцавальны гурт “Врычкэ” з Брно павезлі ў дзіцячы дом, дзе яны далі дабрачынны канцэрт.

На трэці дзень усе гурты ў нацыянальных строях з музычнымі інструментамі і нацыянальнымі сцягамі сабраліся на вялікай плошчы. Па вул. Свабоды (на якой, дарэчы, забараняецца паліць цыгарэты, і кожны, хто парушыў гэта правіла, абкладаецца штрафам) з музыкай і песнямі яны накіраваліся да старога замка, які сустрэў стракатае вясёлае шэсце пальбой з гарматы. Ля муроў замка нас чакалі знарок абсталяваныя дзеля фестывалю падмосткі з якаснай узмацняльнай апаратурай, тэлеапэратарамі. Свяціла восеньскае сонца, якое мала грэла, затое надавала святочнасць гэтаму моманту. Першыя жоўтыя лісцікі на дрэвах трапяталі ў паветры сіняга неба бы маленькія сцяжкі. Нос казытаў дымок ад шашлыкоў, гандляры прапаноўвалі напоі, цукеркі, печыва, дробныя сувеніры. Жыхары Коўна радасна сустрэлі ўрачыстае шэсце фальклорных гуртоў. Гледачы і слухачы ўладкоўваліся проста на зялёнай траўцы, бо ніякая зала не ўмясціла б такую колькасць людзей.

Першай на падмосткі запрасілі “Дзянніцу”, якасць і багацце музычных афарбовак спеваў якой, а таксама аўтэнтычнасць нацыянальных строяў былі адзначаны асобна. Гэты гурт быў прызнаны наймацнейшым па культуры спеваў і строяў з запрошаных гасцей. Пасля канцэрта пад адкрытым небам і вячэры ў гатэлі а дваццатай гадзіне ўсе ўдзельнікі фестывалю былі запрошаны на банкет, дзе сталы ламіліся ад літоўскага піва і розных прысмакаў да яго. Кожны гурт мусіў прадставіць і распавесці пра свой нацыянальны строй, яго выраб. Потым зноў падарункі на ўспамін, абмен адрасамі, песні і танцы да ўпаду ў поўным сэнсе гэтага слова. Кожны адчуваў сябе ўтульна як дома, адносіны паміж людзьмі былі амаль свойскія, тым больш, што калі пачыналі іграць музыкі літоўскага гурта “Локіста” нейкі танец, то чэхі з гурта “Врычкэ” давалі яму сваю назву, сцвярджаючы, што гэта іхні танец, а саліст гурта “Дзянніца” Іван Агееў сказаў, што гэта наш “Абэрак”, падхапіў дзяўчыну і заліхвацкі, але з годнасцю павёў яе па кругу. Калі нейкія элементы танца адрозніваліся, то лёс кожнага танца вырашаўся асобна: ці ўсе пераходзілі на нейкі адзін варыянт, паглядаючы адзін на аднаго, альбо разбіваліся на купы і кожны таньчыў па-свойму.

У нядзелю раніцой канцэрт “Дзянніцы” знялі на стужку для віленскага тэлебачання. Дабрачынны канцэрт у вайсковай частцы завяршыў фестывальную праграму.

Новыя знаёмствы з добрымі людзьмі, дамова пра будучае супрацоўніцтва, новыя праекты. Сёй-той пусціў слязу пры развітанні. Але дадому вярталіся ўсе бы акрыленыя, са светлым успамінам і ўдзячнасцю да IV фестывалю “КОЎНА-96”.

**Валянціна ЯКІМОВІЧ**

## ЗАМЕСТ КРОПКІ

***Нядаўна нашу краіну наведаў вядомы расійскі літаратар Андрэй Бітаў — прыляцеў ён з Нью-Ёрка, дзе ўжо доўгі час чытае ва універсітэце лекцыі па літаратуры. Мая сустрэча з Бітавым адбылася ў фае гатэля "Беларусь". Я быў пераканаены, што сюды рынуцца журналісты і трапіць да літаратара будзе цяжка... Таму я быў вельмі здзіўлены, калі ўбачыў, што нічога такога няма — Андрэй Бітаў у адзіноце праходжваўся ўздоўж крэслаў. Пасля доўгіх роздумаў я вырашыў падаць словы Андрэя Бітава ў выглядзе маналога. Мне здаецца, што гэта і ёсць аптымальны варыянт аповеду пра ягоную творчую дзейнасць.***

**Зміцер ВОЛКАЎ**

* * *

Гэта было 40 гадоў таму. Я вучыўся ў Горным інстытуце і быў вельмі спартовым хлопцам. Барацьба, штанга — толькі гэтым і займаўся. Раптам выпадкова прачытаў аддрукаваны на шклографе зборнік аб'яднання Літінстытута і натрапіў на зусім жывыя рэчы. У мяне была тады такая ўстаноўка, што савецкай літаратуры наогул няма — да 1917 года была літаратура, ды потым не стала. Інфармацыі не было, жыў у поўнай пустэчы. А гэты зборнік быў аб тым, што я ведаю, аб тым, што навокал адбываецца жыццё.

Потым я патрапіў на Тыдзень італьянскага кіно. Гэта таксама была падзея. Там паказвалі "Дарогу" Феліні. Гэта быў першы выпадак сінхранізаванага паказу — свет і мы глядзелі фільм адначасова. Не праз 20 гадоў, як чыталі раманы Рэмарка і Хэмінгуэя, а практычна ў тую ж секунду. Акрамя таго, што гэта геніяльная рэч, я быў уражаны: вось жыццё — вось ягонае адлюстраванне. Выйшаў з кінатэатра, сустрэў сябра, які ведаў мяне выключна па спорце, і пачаў штосьці гэткае яму фантазіраваць. Да гэтага часу памятаю яго здзіўлены позірк. Ён не падазраваў ва мне наяўнасці нейкай думкі, тым больш здольнасці да яе выяўлення. Потым мы пачалі гутарку аб прачытаным зборніку, і выявілася, што сябра ўдзельнічаў у тым літаб'яднанні.

Ён мяне туды прывёў, і я ўпершыню адчуў — вось маё асяроддзе. А мяне там, вядома, запыталі: "А што ты, хлопчык, пішаш?" Я разумеў: калі адкажу, што нічога, мяне могуць выгнаць. Таму свой шлях у літаратуру я пачаў цалкам прафесійна — з плагіяту. Успомніў два вершы старэйшага брата, які пісаў пад Ігара Северяніна, прачытаў іх напамяць, і мяне паблажліва прынялі.

Так я трапіў у сітуацыю, калі трэба было штосьці пісаць. І я пісаў цэлыя два тыдні паэму пад Маякоўскага — пад позняга, не лепшага Маякоўскага. Потым прачытаў яе, і яны сказалі: "Ну вось тут штосьці ёсць. А тую гадасць, якую ты раней чытаў, — што гэта такое?! Ты так больш ніколі не пішы!" А я ўжо не мог прызнацца, што гэта не маё, хаця вельмі хацелася.

Жарты жартамі, але так было. Я сапраўды пачынаў даволі прафесійна — за ганарар. Гэтым ганарарам былі асяроддзе, гутаркі, сябры. Потым у 1958 годзе я раптам пачаў пісаць караценькія апавяданні і адразу адчуў, што ў мяне гэта атрымліваецца нашмат лепш. Да 40-годдзя тых падзеяў я нядаўна выдаў кнігу. Яна мае назву "Першая кніга аўтара". І гэта таксама праўда — гэта кніга ніколі не выдавалася. Яна выдадзена па схеме "гэткая кніга, якую я хачу" — афармленне, дызайн... Потым я прыкінуў, і ў мяне атрымалася, што за 40 гадоў было 100 асобных выданняў маіх кніг. Ці каля таго. Так з'явілася другая кніга пад назвай "Першая і 101-я кнігі аўтара". Формула Карнея Чукоўскага "У Расіі пісьменнік павінен жыць доўга" працуе добра — 40 гадоў праходзіць — першую кнігу выдаеш. Сам.

* * *

За апошнія 12 гадоў я перажыў даволі шмат новага. Увесь папяспрабавалі распачаць выдавецтва, адна з прыдуманых серый мела назву "My best" (анг. "маё самае лепшае". — **З.В.**). Ідэя была вельмі простая, яна заключалася ў тым, што самім аўтарам выбіраюцца 20 аркушаў (кніга сярэдняга фармату памерам каля 350 старонак. — **З.В.**) яго творчасці — тыя, якія ён хоча, а на вокладку ідзе яго любімая карціна. Ну, напрыклад, Віктар Астаф'еў выбраў васняцоўскую "Алёнушку", Уладзімір Маканін — фрагмент з Мікеланджэла, а Людміла Петрушэўская — малюнак сваёй дачкі. Гэта іх справа, але тое, як пісьменнік хоча аформіць



# У РАСІІ ПІСЬМЕННІК ПАВІНЕН ЖЫЦЬ ДОЎГА

рэдні савецкі вопыт звязаны з праціхваннем тэкстаў, са збіраннем максімальнай колькасці і якасці, з супрацоўніцтвам з рэдактарамі. Пры гэтым дрэнны рэдактар адыгрываў ролю чыстага цэнзара, а добры быў лоцманам у чужых водах цэнзуры і кіраўніцтва. Я да гэтага часу ўдзячны тым, хто за мяне часта мучыўся, заставаўся без прэміі і іншага.

Калі прыйшоў Гарбачоў і пачалася галоснасць, савецкая ўлада зрабіла рэверс на 5 гадоў, звярнулася з усмешкай назад да тых, каго яна заціскала. Раптам узніклі нечаканыя магчымасці — друкуй усё, што хочаш, ніякіх цэнзараў. Нам дасталося за затрымку. У той час я пачаў набліжацца да ідэі ўласнай кнігі ад пачатку да канца. Афармленне маіх кніг мне заўсёды было неабыякава, і гэта зразумела — якім бы дурнем ні быў аўтар, яго тэкст жыве вёрсткай і афармленнем. Часцей за ўсё для добрай кнігі не малюнкі як такія патрабуюцца, а нейкая танальнасць, якая ідзе ад самога аўтара. Калі ў ПЭН-клубе мы сваю кнігу, — гэта, магчыма, і ключ да яго амбіцый, да чагосьці вельмі важнага...

Жартам склаўся кансорцыум "БАГАЖ". Гэта слова я прыдумаў як абрэвіятуру "Бітаў — Габрыядзе — Жванецкі". Рэзервовае "а" засталося, магчыма, для Ахмадулінай, магчыма, для Аляшкоўскага. Далучыліся да нас Саша Веліканаў і Юры Рост. Гэта фірма сяброў, знітаваная віноўжываннем, не зусім рэальна дзейнічае. Яна спрабуе рабіць кнігі і нешта ўжо зрабіла. Жванецкі, напрыклад, заўсёды мроіў аб сваёй кнізе, і мы з мастаком Рэзо Габрыядзе яму яе зрабілі. Я склаў, паспрабаваў стварыць у ёй нейкі рытм, напісаў прадмову, а Рэзо зрабіў малюнкі. Да 100-годдзя Зошчанкі мы выдалі яго двухтомнік у мініяцюры. Я ім вельмі ганаруся. За такі прадбачны лёс нам хацелася нешта накшталт камплімента дасланаць Міхал Міхалычу на нябёсы, таму першы том мае назву "Аб літаратуры". Памятаеце "Маркс аб літаратуры"? А тут Зошчанка аб літаратуры!

На жаль, нашу фірму пакуль так ніхто і не зарэгістраваў, і не знайшлі мы таго "крутога" дырэктара, які б яе раскруціў. А гэта безадкідная экалагічная вытворчасць, таму што ні ў чым, што робіць Рэзо ў "БАГАЖЫ", няма лухты. І сам працэс нашай агульнай працы з'яўляецца творчасцю.

* * *

Гэта адзін з лепшых успамінаў у жыцці. Неяк сказаў я Рэзо: "Не сорамна табе бываць за мяжой? Пушкіна вось не пускалі... А давай мы яго выпусцім!" Рэзо з'ездзіў у Іспанію, прывёз аркушы з выдатнай сваёй графікай. Прыходзім мы ў Парыжы да Марыі Васільеўны Розанавай, паказваем іх. А яна, заказаная ў Рэзо, кажа: "Я вам гэта выдам". Я сядаю за стол і тут жа за гарэлачкай пішу праклямацыю "Свабоду Пушкіну!". Карыстаюся пры гэтым вельмі жабрацкім Пушкіным — таму ў Андрэя Сіняўскага і дрэнны Пушкін, — але свайго ўласнага багажу мне на гэту праклямацыю хапіла. Так выйшла кніга. Праўда, наклад яе — усяго 100 асобнікаў, але гэта наўмысна — такіх кніг не можа быць шмат.

Ёсць другая кніга пра Пушкіна, яе наклад 99 асобнікаў. Прыходзіць неяк да мяне Рэзо і кажа: "Я зрабіў аркуш, але не ведаю, да чаго ён належыць". А на аркушы Пушкін ляжыць у розных позах. Я адказваю: "Вельмі проста — Пушкін нічога не робіць, а на другім малюнку працягвае нічога не рабіць". Пачынаецца сюжэт. Праз 2-3 дні ён сам пачынае дыктаваць, што варта рабіць далей, а ў выніку з'яўляецца кніга.

Такіх кніг у нас прыдумана сто, а выдадзены толькі дзве. Для гэтага патрэбная нейкая раскрутка. Мы маглі б з гэтымі пушкінскімі серыямі наладзіць сапраўдны тэатр. Можна на вачах у людзей зрабіць кнігу на зададзеную тэму пра Пушкіна. Але ў гэтых кніг не можа быць масавага накладу — гэта разавае існаванне. Мы гэта робім адзін раз і пераробліваць не будзем, у гэтым няма патрэбы. Зразумела, гэтыя кнігі могуць потым аб'ядноўвацца ў альбомы з большым накладам, але іх, хутчэй за ўсё, будуць складаць ужо іншыя людзі.

* * *

Быў тут у мяне дзень нараджэння, і мы яго добра адзначылі. Перад сябрамі я пахваліўся сваімі кнігадрукарскімі дасягненнямі. Бачу, Фазіль сядзіць і адпадае. Потым ён выступіў і сказаў, што гэта подзвіг. А я кажу: "Ніякі не подзвіг. Гэта мой снабізм, гэта маё задавальненне, гэта маё зазнайства, гэта маё хобі — усё, што заўгодна, толькі не подзвіг". Нябожчыца Лідзія Карнееўна Чукоўская адкрыла мне некалі прозу Блока. У яго ёсць такія радкі: "Што б ні зрабіў у Расіі чалавек, яго найперш за ўсё шкада. Шкада, калі чалавек з апетытам жавае. Шкада, калі мытнік, які ніколі не бывае за мяжой, пытаецца ў вас, якое там надвор'е. Шкада..." і г.д. Вось гэтага я не жадаю. Таго, што я раблю, мне шкада. Хаця шмат каго гэта чапляе.

На кнігі, якія я раблю сам, рэакцыя і зараз бывае накшталт "скараціць, не даваць, спыніць". Прычым рэагуюць антысаветчыкі, але з зусім савецкім напаўненнем. У кожным яшчэ жыве прыватызаваная ім самім савецкая ўлада: "як так можна, на добрай паперы ды яшчэ з малюнкамі, што ён сабе дазваляе" — гэткая незадаволеная дэмакратыя. Даваляю, таму што магу. І таму што жадаю. І, слава Богу, я не адзіны. Паўтара чалавекі — Галіна Гусева і яе дачка — прыдумалі тоўсты часопіс і выдаюць яго ў двухпакаёвай кватэры. Як і што — не галоўнае, яны гэта робяць. Ці Іван Лімбах, з якім я выдаю свае кнігі. Чалавек зарабляе на жыццё чэснай брокерскай працай, але вырашыў выдаць кнігу — і выдаў.

* * *

Анёлы яшчэ тут, з намі. Што не без таго, то не без таго. Таму што тое, як у нас ідзе гісторыя — з усімі постсавецкімі скаргамі, — не забяспечана яшчэ намі самімі. Нашых дасягненняў на працягу часу ўжо няма.

Тут нядаўна было гэткае асвятленне, што я раптам адчуў — у адзін момант усё стала рускім — паветра англійскае, глыбіня... Трэба разумець мяне не як хлусліваға патрыёта ці фашыста. Рускае — гэта пяты пункт, не тое, на чым трэба настойваць як на нацыяналістычных пазументах. Гэта дух, душа. Па-мойму, душа ўжо з'явілася на гэтай тэрыторыі. Гэта яшчэ не зусім усведамляецца намі, але яна вярнулася. Быць можа, гэта надзея старэчы, але мне гэтак думаць не хочацца. Якая ж гэта цудоўная краіна — Расія, у якой дрэнна жыць ужо нельга.

Мы ўсе вельмі развіліся за апошнія 10 год, хаця не ўсе гэта разумеюць. Народ ужо гатовы быць не толькі народам, але і грамадскасцю. А кіраўніцтва — гэта шматгадовая расліна. Бывае, той кіраўнік, які апярэджвае — ён згарае. Бывае, той кіраўнік, які не паспявае — ён таксама згарае. Пасрэднасць не гарыць, а герояў мы яшчэ не нарадзілі. Зараз мы павінны маліцца, як гэта ні дзіўна, не за хуткія перамены, а за статус-кво. Таму што Расіі патрэбны толькі час, час, час...

Яны нам дапамагаюць — мы дрэнна працуем. А яны сваю працу выконваюць, анёлы...

* * *

Я заўсёды жыў вельмі ўдала. Цяпер я асабліва гэта адчуваю. Не ведаю, як у іншых, ды ў мяне свой анёл быў, толькі я аб гэтым не ведаў. І ён выцягваў мяне з вельмі цяжкіх абставінаў. Я жыў сярод сяброў застойным спосабам, у лабараторыі кухні, п'янства і сяброўства. І працягваю жыць сярод іх. Сустракацца стала цяжэй, паколькі шмат хто зрабіў нейкія незразумелыя кар'еры, затусаваліся. Не, не сталі горш, проста не хапае часу на сустрэчы.

Тых, з кім захавалася сяброўства, аніяк не сапсаваў час. Яны былі і застаюцца дастаткова персанальнымі, каб супрацiўляцца часу ў новых абставінах. Супраціўляцца трэба і зараз, каб час цябе не выкупіў, не закруціў. Так што я працягваю жыць сярод людзей, якія не змяніліся. Быць можа, атрымалі больш магчымасцей. Але адначасова гэтыя магчымасці змяншаюцца векам — усё ў жыцці дрэнна збалансавана. З узростам, дарэчы, недахопы не змяншаюцца, а якраз павялічваюцца. Так што можна бачыць, як у цябе і ў сябра выяўляецца нешта яшчэ. Але накірункі асноўнай працы духу ў нас з сябрамі засталіся тыя ж самыя.

КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь
Галоўны рэдактар — Алег КАМІНСКІ

Рэдакцыйная калегія:
Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Віктар ТУРАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Камп'ютэрная вёрстка — Ірына ДЗІВІНА
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК), вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 18.00.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 2680
Замова
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.